ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 48 (2509)
ПЯТНІЦА
28
жніўня 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ.

Цана 8 кап.



Ветэран маладой будоўлі экскаватаршчык Міхаіл Хоміч.



Вадзіцелі магутных магілёўскіх скрэпераў Іван Бабко (злева) і Сяргей Валканоцкі.



Адзін з лепшых экскаватаршчыкаў камсамолец Тадэвуш Валковіч.



А гэта добры гід нашых карэспандэнтаў, начальнік механізаванага атрада Мікалай Граноўскі.

# ВІЛІЯ НАПОІЦЬ СВІСЛАЧ

**Размоў пра будаўніцтва Вілейска-Мінскай воднай сістэмы ідзе шмат. Ды гэта і зразумела: цяжка знайсці чалавека, які не цікавіўся б гэтай найбольш важнай, па вызначэнні Савета Міністраў БССР, будоўляй. Вельмі ж ужо многа спадзяванняў ускладаюць мінчане на гэтую сістэму, многа мар яны звязваюць з чыстай і гаючай вадою Віліі і яе прытокаў—Дзвіносы, Іліі, Сэрвечы, Канатопкі, Гуйкі, Ледзвянёўкі, Шчаркі, Рыбчанкі, Бервячанкі, Вязынкі.**

**Пра тое, што дасць сталіцы Беларусі канал Вілія—Свіслач, пра будні новабудоўлі, праблемы і клопаты будаўнікоў расказваецца сёння на 4—5 старонках.**






Тут будзе помпавая станцыя.

## З пяцідзесяці краін..,



Сення Беларусь наша славіцца на ўвесь свет сваёй прамысловасцю, сельскай гаспадаркай, высокай навуковай і тэхнічнай думкай. Як адно з сведчанняў гэтага — міжнародная канферэнцыя эканамістаў-аграрнікаў, якая праходзіць у Мінску. Дарэчы, такая сустрэча эканамістаў-аграрнікаў упершыню праводзіцца ў Савецкім Саюзе. У Мінск з'ехалася каля 800 буйных вучоных і спецыялістаў з 50 краін свету. Асноўная тэма гэтай дзелавой сустрэчы — «Эканамічная палітыка, планіраванне і кіраўніцтва развіццём сельскай гаспадаркі — нацыянальныя і міжнародныя аспекты».

На здымку— у зале пасяджэнняў канферэнцыі.

# У ГЭТЫЯ ДНІ

### ...ЗАКРЫЎСЯ

ў Ліепаі (Латвійская ССР) Усесаюзны фестываль самадзейных эстрадных калектываў «Бурштын Ліепаі-70». Пяць дзён на адкрытай эстрадзе Ліепаеўскага парку культуры і адпачынку выступалі самадзейныя майстры пантамімы, вакалу, эстрадныя ансамблі з Літвы, Латвіі, Грузіі, Арменіі і Беларусі. Самадзейнае мастацтва нашай рэспублікі на фестывалі прадстаўлялі эстрадныя калектывы Барысаўскага гарадскога Дома культуры, Кобрынскага раённага Дома культуры і Мінскі эстрадны аркестр «Зялёны агеньчык».

Галоўны пераходны прыз фестывалю «Бурштын Ліепаі-70» заваяваў эстрадны калектыў «Экранас» з горада Панявежыса. Вялікі поспех выпаў на долю самадзейных аркестрантаў з «Зялёнага агеньчыка», якому журы прысудзіла дыплом другой ступені сярод эстрадных аркестраў («Біг-Бэнд»). У рэпертуары мінчан былі творы беларускіх кампазітараў Я. Глебава, Ю. Семянякі, І. Лучанка, Я. Грышмана.

Дыплом прысуджаны і салістцы «Зялёнага агеньчыка» Кацярыне Загорскай. Яна ўзнагароджана таксама Ганаровай граматай Ліепайскага гарадскога аддзела культуры.

У будучым годзе у Ліепаі зноў адбудзецца фестываль «Бурштын Ліепаі-71». Права ўдзельнічаць у ім заваяваў эстрадны аркестр «Зялёны агеньчык».

### ...ПАДВЕДЗЕНЫ

вынікі конкурсу на жытло і гандлёвыя цэнтры для вёскі, які аб'явілі Дзяржбуд і Саюз архітэктараў БССР.

Сярод праектаў жылых дамоў журы прызнала лепшымі тыя, якія былі адзначаны дэвізамі «Комплекс», «Вожык», «Лістапад», «Рыга», «Марс», «Дзьмуханец».

Прэміямі адзначаны праекты гандлёвых цэнтраў, якія ішлі пад дэвізамі «Зубр», «Блок», «28» і іншыя.

Ускрыццё дэвізных канвертаў паказала, што ў конкурсе прыняло ўдзел шырокае кола праекціроўшчыкаў з Мінска, Масквы, Кіева, Брэста і іншых гарадоў краіны.

Мінскі архітэктар В. Крывашэеў аказаўся аўтарам трох прэміраваных праектаў, а яго зямляк архітэктар І. Елісееў — двух.

### ...ВЯРНУЛІСЯ

з Габрава (Балгарыя) самадзейныя артысты Магілёўскага ансамбля песні і танца «Дружба», якія выступаў з канцэртамі ў акруговым цэнтры, у Траўне, Дракаве, Сеўніве і ў многіх сёлах акругі.

### ...АДКРЫЛАСЯ

ў Маскве ў Манежы Усесаюзная выстаўка народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. На ёй экспануюцца работы народных умельцаў з Расійскай Федэрацыі, Украіны, Грузіі, Малдавіі, Азербайджана, Літвы, Латвіі, Беларусі.

Сярод экспанатаў беларускіх майстроў — работы разьбяроў па дрэве С. Гудкоўскага «Дэкрэт аб зямлі», Ул. Альшэўскага «У свеце жывёл», скульптура Ул. Ульянава «Дэкрэт аб міры», керамічныя цацкі гамяльчанкі С. Малатковай «Шчаслівая сям'я», «Верныя сябры».

Асабліва многа наведвальнікаў у аддзеле, дзе выстаўлены вырабы Гродзенскага шклозавода «Нёман». Яны падоўгу затрымліваюцца каля «Сялянскага прыбора», які выкананы спосабам «нёманская нітка» майстрамшкларобам А. Федарковым — аўтарам новага спосабу.

У беларускай экспазіцыі прадстаўлены таксама ткацкія вырабы, бытавая і дэкаратыўная кераміка, вырабы з бяросты і іншыя экспанаты. Толькі ў першы дзень беларускі аддзел наведала больш 15 тысяч чалавек.

### ...ЗАКОНЧАНА

ў інстытуце «Белмясцпрампраект» распрацоўка ўзораў новых вырабаў з дрэва, якія будуць запушчаны ў масавую вытворчасць. Сярод іх — набор для піва і віна, дзіцячыя цацкі, жаночыя ўпрыгожанні. Ва ўзорах ўмела выкарыстаны традыцыйныя народныя формы і нацыянальны арнамент.

# СОРАК ПЯТЫ

21 ЛІСТАПАДА 1926 года адкрылася заслона Другога БДТ, які цяпер носіць назву Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр імя Я. Коласа. У гэтыя дні яго трупа сабралася, каб пачаць сорак пяты тэатральны сезон. Адразу пасля традыцыйнага сходу артысты выпраўляюцца са спектаклямі па раёнах Віцебшчыны. Гастролі па вобласці — гэта адказ калектыву на заклік Пленума ЦК КПСС мабілізаваць увагу грамадскасці на ўздым сельскай гаспадаркі. Культурнае абслугоўванне калгаснікаў заўсёды было клопатам коласаўцаў, а цяпер яны з гэтага пачынаюць сезон.

Карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва» звярнуўся да галоўнага рэжысёра тэатра лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР Сямёна Казіміроўскага з пытаннем: што новага будзе ў дзейнасці коласаўцаў?

— Па-першае, нас вельмі ўзрадавала сёлетняя сустрэча са смалянамі. Тэатр паказаў лепшыя спектаклі рэпертуару, і Смаленск з цікавасцю сустракаў і нашага «Несцерку», і «Клапа», і «Уладу цемры». Шкада, што мы не змаглі з-за арганізацыйных цяжкасцей выступіць у Мінску. Мабыць, у будучае лета прыедзем. Тады пакажам і навінкі. Якія?

Разам з Андрэем Макаёнкам працуем над канчатковай сцэнічнай рэдакцыяй яго п'есы «Трыбунал» (пад назвай «Калабок» яна заваявала другую прэмію на рэспубліканскім конкурсе на лепшую п'есу, які праводзіўся ў гонар ленінскага юбілею). Ставіць «Трыбунал» даручана мне, мастаком прызначаны Яўген Нікалаеў. Галоўныя ролі будуць выконваць заслужаныя артысты Зінаіда Канапелька і Іосіф Матусевіч, акцёр Георгій Дубаў. Спадзяёмся, што пасля доўгага перапынку новая сустрэча з Макаёнкам прынясе цікавы творчы плён.

Рэжысёр Леанід Кавалёў рыхтуе спектакль «Маскоўскія канікулы» па п'есе Андрэя Кузняцова, перакладзенай на беларускую мову Уладзімірам Ганчаровым. Мастаком будзе Аляксандр Салаўёў. Тут тэатр прадставіць у новых ролях сваю моладзь, выхаванцаў Беларускага тэатральнага — Віктара Котава, Мікалая Трухана і Святлану Акружную.

Для аматараў дэтэктыўнага відовішча будзе цікавым спектакль «Семнаццаць імгненняў вясны» па рамане Юліяна Сямёнава. Яго ставіць народны артыст рэспублікі Фёдар Шмакаў. Сучаснай амерыканскай трагедыяй «Рамео і Джульета» называюць часам п'есу «Вестсайдская гісторыя» Артура Лорэнца. Мы яе ставім. Рэжысёрам будзе Барыс Луцэнка, якога мы запрасілі на гэту пастаноўку з Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы.

У партфелі тэатра ёсць і такія рэпертуарныя навінкі, як «Амністыя» Мікалая Матукоўскага, «І вечны бой» Міхася Герчыка, і «Начное дзяжурства» Анатоля Дзялендзіка.

Такім чынам, перспектыўныя планы ў нас як быццам і добрыя. Трупа імкнецца даць гледачу спажыву і для сур'ёзнага роздуму, і для вясёлага адпачынку. Зразумела, тэатр помніць пра грамадзянскі абавязак мастацтва, і кожны твор мы будзем раскрываць з ваяўнічых пазіцый савецкай маралі і ідэалогіі. Луначарскі ў свой час гаварыў: калі мастацтва — «дзіця земнароднай маці-эканомікі, калі яно фарбамі, песнямі арганізуе расткі непазбежнага заўтра, якія нараджаюцца і дужэюць у людскіх душах, — тады яно, несумненна, паглыбляе, аблягчае сацыяльныя працэсы». Мара нашага калектыву—удзельнічаць у стварэнні такога актыўнага і прынцыповага мастацтва.

СТО РАДКОЎ з рэдакцыі

# САМААЦЭНКА — ТАКСАМА МАСТАЦТВА

Вялікі Станіслаўскі быў ужо прызнаным артыстам і адным са стваральнікаў МХАТа, слава ўжо ляцела наперадзе гэтага імя, калі ён аднойчы задумаўся пра зробленае і пачаў «адкрываць даўно вядомыя ісціны». Так і называецца раздзел у яго кнізе «Маё жыццё ў мастацтве» — «Адкрыццё даўно вядомых ісцін». Гэта прыклад бязлітаснай самаацэнкі, без якой нельга паспяхова працаваць ні ў літаратуры, ні ў тэатры, ні ў архітэктуры, ні ў кіно. Патрабавальнасць самая лепшая тая, якую прад'яўляе да сябе сам мастак. «Седзячы на фінляндскай скале,—піша Станіслаўскі,—я ў думках пераглядзеў... ролі... Божухна! Як скалечылі маю душу, цела і самую ролю благія тэатральныя звычкі, акцёрскія штучкі, бязвольнае жаданне дагаджаць публіцы, няправільны падыход да творчасці, дзень у дзень, на кожным паўторным спектаклі!» Ніхто ў тыя гады не асмеліўся б сказаць так цудоўнаму акцёру і рэжысёру-шукальніку. Божухна!—здзівіўся ён сам, узважыўшы непрыкметнае для іншых.

Ставіцца самакрытычна да плёну сваёй дзейнасці — гэта далёка не тое самае, што займацца самабічаваннем. Вядома, што бывае прыніжэнне вышэй за гордасць, і яно не можа выклікаць павагі. Дзіўна было б, калі б рэжысёр пасля кожнай пастаноўкі гаварыў калектыву тэатра, што трупа нікуды не вартая, што акцёры разам з ім толькі слізгаюць па паверхні жыццёвых з'яў і драматургічнага твора, што штамп пануе на сцэне. Смеху было б варта выступленне аўтара жывапіснага палатна на пасяджэнні выставачнага камітэта, калі б ён назваў сваю работу чарговай «мазнёй». Не верым мы і літаратару, калі ён з іранічнай усмешкай аддае ў рэдакцыю «павястушку» і дадае, быццам сам не ведае, што з ёй рабіць — ці то спаліць, ці то друкаваць... Ёсць сапраўдная павага да зробленага і, на жаль, бывае і самазадаволенасць, якую не схавае ніякая іронія.

Самазадаволенасць — дрэнны дарадчык мастака. Калі ж яна робіцца атмасферай дзейнасці калектыву, яна прыкрая ўдвая.

Нядаўна на гэтым жа месцы газеты «Літаратура і мастацтва быў надрукаваны трывожны сігнал. У некаторых тэатрах усё часцей акцёры дэманструюць дзіўную і недарэчную цягу да штампаў. Гэта тлумачыцца часцей за ўсё адарванасцю калектываў ад агульнага тэатральнага руху, калі артысты не маюць магчымасці параўнаць сябе з суседзямі, паглядзець спектаклі сталічных труп, сумесна абмеркаваць надзённыя праблемы. Здаецца, ніхто не будзе аспрэчваць, што і сапраўды такая пагроза ёсць. І патрабавальна абдумваючы зробленае, не адзін з рэжысёраў і акцёраў у Магілёве і Гродна, у Брэсце і Гомелі мае часам падставу паўтарыць вокліч Станіслаўскага: «Божухна!..»

Не, такога вокліча не было. Рэдакцыя атрымала пісьмо ад аднаго галоўнага рэжысёра абласнога тэатра, дзе сігнал газеты не толькі бярэцца пад агонь, а і наогул скажаецца прыведзеная вышэй думка пра (падкрэслім) некаторых акцёраў. Аўтару пісьма здалося, што такой заўвагай мы сцвярджаем, быццам наогул тэатр, які ён узначальвае, «самы адсталы, не мае ні свайго аблічча, ні мастацкіх пазіцый, знаходзіцца амаль што ў стане творчага маразму» (цытуем дакладна). А затым даецца самарэклама—«наш тэатр з пачуццём грамадзянскай і творчай адказнасці імкнецца выконваць сваю мастацкую і ідэалагічную місію».

Імкненне высакароднае і натуральнае. І ніхто яго не бярэ пад падазрэнне. Гаворка ідзе аб іншым — якім чынам ажыццяўляецца такое імкненне, ці заўсёды і ў кожнай рабоце нашы тэатры трымаюцца на ўзроўні сапраўды народнага і партыйнага мастацтва ва ўсіх кампанентах пастановак! І асабліва па-акцёрскім майстэрстве. Тут яшчэ многа трэба працаваць, каб наблізіцца да дасканаласці. І галоўны рэжысёр павінен заклікаць калектыў да ўздыму культуры творчасці, а не супакойваць сябе і тых, каго яму належыць весці да вяршынь мастацтва, салодкім тонам задавальнення.

Папракнуў аўтар пісьма і нашых рэцэнзентаў за тое, што яны, бываючы ў тэатры, не робяць візітаў яму, галоўнаму рэжысёру. А навошта такія візіты! Ці абавязкова крытыку гаварыць з жывапісцам, перш чым брацца за крытычнае пяро і пісаць пра карціну! Або — рэцэнзенту тэлевізійнай перадачы бегчы на студыю і наладжваць абмеркаванне ў кабінеце рэжысёра-пастаноўшчыка! Зразумела, бывае і патрэба ў таварыскіх гутарках паміж прадстаўнікамі газеты і творчымі работнікамі. І яны адбываюцца. Але патрабаваць, як гэта робіць наш апанент, каб ты абавязкова бываў «госцем» рэжысёра, — гэта наіўна і не зусім правільна. Артыкул В. Бялінскага пра П. Мачалава ў «Гамлеце» пісаўся без кансультацый за кулісамі Малога тэатра!..

Час прад'яўляе да мастацтва ўсё больш высокія патрабаванні. Адказаць творчасцю на клопат пра мастацтва дзяржавы, партыі, народа можна і трэба толькі ўздымам творчага ўзроўню ўсіх галін мастацтва. А гэта магчыма ў атмасферы строгага і прынцыповага самакантролю. Варта людзям мастацтва вучыцца глядзець на свае дасягненні і страты нібы «збоку», адкідаць таннае самалюбства і пераадольваць недахопы рашуча. Без самакрытыкі рух наперад немагчымы!

Кацярына ФУРЦАВА, міністр культуры СССР

# ДЗЯРЖАВА І КУЛЬТУРА

**З 24 жніўня па 2 верасня ў Венецыі (Італія) праходзіць міжурадавая канферэнцыя міністраў культуры па арганізацыйных, адміністрацыйных і фінансавых пытаннях палітыкі ў галіне культуры. У канферэнцыі прымае ўдзел дэлегацыя Беларусі на чале з міністрам культуры БССР М. А. Мінковічам.**

**З дакладам на гэтай канферэнцыі выступае міністр культуры СССР Кацярына Фурцава. АДН прапануе ўвазе чытачоў пераказ гэтага даклада.**



САВЕЦКАЯ сацыялістычная дзяржава з першых дзён свайго існавання прыняла на сябе ўсе клопаты і адказнасць за развіццё культуры ў краіне. Ля вытокаў зараджэння і развіцця сацыялістычнай культуры стаяў палымяны рэвалюцыянер, найвялікшы вучоны нашай эпохі, стваральнік і кіраўнік Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы Уладзімір Ільіч Ленін. Ён не толькі распрацаваў тэорыю і праграму культурнага будаўніцтва, але і асабіста кіраваў яе ажыццяўленнем.

Адным з першых прынцыпаў ленінскага плана культурнага будаўніцтва з'яўляецца палажэнне аб пераемнасці ў развіцці культуры. Новая сацыялістычная культура не можа ўзнікнуць на пустым месцы. Яе стварэнне немагчыма без цвёрдай апоры на класічную спадчыну, на лепшыя прагрэсіўныя традыцыі мастацтва, якія да гэтага часу захавалі сталую эстэтычную каштоўнасць і гуманістычную сутнасць.

Адкрываючы шырокі доступ народу да твораў мастацтва, дзяржава спецыяльнымі ўрадавымі дэкрэтамі за подпісам Леніна нацыяналізавала і аб'явіла агульнанароднай уласнасцю ўсе карцінныя галерэі і музеі, кансерваторыі, мастацкія вучылішчы, тэатры, кінематаграфічную і фатаграфічную прамысловасць, усе скарбы і помнікі культуры. Дзяржава забараніла вываз з межаў краіны мастацкіх каштоўнасцей, выдала дэкрэты аб строгай іх ахове.

Былы царскі Зімні палац у Петраградзе ператварыўся ў музей, і хутка пасля рэвалюцыі ў яго Гербавай зале рабочыя, маракі і чырвонагвардзейцы слухалі «Рэквіем» Моцарта — у памяць аб загінуўшых героях рэвалюцыі. Унікальныя музычныя інструменты былі сабраны ў Дзяржаўную калекцыю; іменна на гэтых інструментах, у тым ліку на скрыпках Страдзівары і Гварнеры, іграюць нашы маладыя музыканты, якія не раз перамагалі на міжнародных конкурсах.

У цяжкія гады блакады і замежнай інтэрвенцыі, калі ў краіне не хапала хлеба і паліва, Ленін пастаянна нагадваў, што народ нам не даруе, калі мы не здолеем выратаваць для будучага лепшыя ўзоры класічнай культуры.

Савецкая дзяржава і цяпер робіць усё, каб скарбы нацыянальнай і сусветнай культуры былі здабыткам мас.

Ленін гаварыў, што «ўздым агульнага ўзроўню стварае тую цвёрдую здаровую глебу, з якой вырастуць магутныя невычарпальныя сілы для развіцця мастацтва, навукі і тэхнікі». Гэта стала адным з важнейшых прынцыпаў культурнага будаўніцтва.

Савецкая дзяржава выканала гэту задачу ў неймаверна цяжкіх умовах: беднасць матэрыяльнай базы, непісьменнасць трох чвэрцей насельніцтва. Больш 40 народнасцей нацыянальных ускраін не мелі нават сваёй пісьменнасці.

І што ж? У выніку ажыццяўлення культурнай палітыкі прыкладна праз 20 гадоў пасля рэвалюцыі, у канцы трыццатых гадоў Савецкі Саюз стаў краінай суцэльнай пісьменнасці. Больш 60 працэнтаў працоўнага насельніцтва СССР мае вышэйшую, сярэднюю і няпоўную сярэднюю адукацыю. Прывяду адзін наглядны прыклад: у былых ускраінах Расійскай імперыі — цяпер у рэспубліках Сярэдняй Азіі і ў Казахстане — да рэвалюцыі не было ні адной вышэйшай навучальнай установы, а цяпер больш як 90. У іх вучыцца каля 500 тысяч студэнтаў. Навучанне ў нашай краіне вядзецца на роднай мове кожнай нацыянальнасці і народнасці. Адной з галоўных заваёў сацыялістычнага ладу з'яўляецца бясплатнасць усіх асноўных відаў адукацыі ад ніжэйшага да вышэйшага.

На аснове хуткага ўздыму адукацыі створана новая народная інтэлігенцыя, ліквідавана культурная адсталасць мас. Тым самым вырашана задача далучэння працоўных да скарбніц сусветнай духоўнай культуры.

**Прынцыпова новым у дзяржаўнай культурнай палітыцы з'явілася таксама тое, што з першых дзён свайго ўзнікнення Савецкая дзяржава прыняла на сябе арганізацыйныя, матэрыяльныя і фінансавыя клопаты па развіцці культуры і мастацтва.**

Мы па праве ганарымся тым, што культура Савецкага Саюза развіваецца ў поўнай незалежнасці ад нейчай грашовай выгады і камерцыйнага разліку. Яе натхняюць, як гэта прадказваў Ленін, «не карысць, і не кар'ера, а ідэя сацыялізма і спачуванне працоўным».

Нашы тэатры, аркестры, мастацкія інстытуты і кансерваторыі не ведаюць прыніжальнай залежнасці ад багатых мецэнатаў. Маладыя музыканты, артысты, мастакі растуць, не ведаючы горычы прыніжэння, пакутлівых крыўд непрызнання. Дзяржава ўсяляк дапамагае ім, падтрымлівае заказамі, дае лепшых выкладчыкаў, стыпендыі і інтэрнаты.

Стварэнне трывалай матэрыяльнай асновы развіцця культуры, яе планаванне і фінансаванне, падрыхтоўка і ўдасканаленне дзеячоў культуры сталі справай агульнадзяржаўнай. Дзякуючы гэтаму культура стала сапраўды ўсенароднай, даступнай сотням мільёнаў працоўных. Аб'ём фінансавання развіцця культуры з дзяржаўнага бюджэту ў нашай краіне расце год у год. У цэлым выдаткі на сацыяльна-культурныя мерапрыемствы складаюць каля 40 працэнтаў дзяржаўнага бюджэту.

У Савецкім Саюзе працуе 534 прафесіянальныя тэатры, з іх 37 тэатраў оперы і балета, дзейнічаюць каля 400 тысяч бібліятэк, больш 1000 дзяржаўных музеяў.

Дзяржаўныя выдавецтвы выпускаюць штогод больш 75 тысяч выданняў, іх агульны тыраж дасягнуў у 1969 годзе 1 млрд. 300 мільёнаў, што складае амаль чацвёртую частку сусветнай кніжнай прадукцыі. Дадам да гэтага, што дзяржава рэгулюе цэны на наведванне відовішчных мерапрыемстваў, фактычна датуючы кожнае месца ў тэатры, канцэртнай зале, цырку. У нашай краіне самыя нізкія па сусветных стандартах цэны на білеты, кнігі, перыядычныя выданні і грампласцінкі.

Такая дзяржаўная палітыка садзейнічае таму, што ўсё больш людзей наведваюць музеі, кінатэатры, тэатры. Колькасць наведвальнікаў музеяў узрасла, напрыклад, з 50 мільёнаў у 1960 годзе да 100 мільёнаў у 1969 годзе. Толькі Эрмітаж летась наведала больш 3 мільёнаў чалавек.

Тэатры, канцэрты і цыркавыя прадстаўленні летась наведала больш як 300 мільёнаў чалавек. Дарэчы, пры бурных тэмпах развіцця тэлебачання ў нашай краіне ў тэатры і кінатэатры за апошнія гады сталі хадзіць не менш, а больш.

Нельга вырашаць праблему пастаяннага росту сеткі ўстаноў культуры без кваліфікаваных спецыялістаў. Савецкая дзяржава стварыла сістэму іх падрыхтоўкі, якая вядзецца ў 61 вышэйшай навучальнай установе і ў 430 сярэдніх спецыяльных навучальных установах пры бясплатным навучанні. Усе выпускнікі навучальных устаноў культуры забяспечваюцца дзяржаўнай работай па спецыяльнасці.

**Ленінскі план культурнага будаўніцтва вызначыў і ідэйна-эстэтычныя прынцыпы развіцця мастацкай творчасці. Сацыялістычнае шматнацыянальнае мастацтва выконвае новую па сваім змесце і мэце сацыяльную функцыю ў параўнанні з мастацтвам папярэдніх эпох.**

Мастацтва сацыялістычнага рэалізму ў разнастайных мастацкіх формах праўдзіва адлюстроўвае гераічныя дзеянні народа ў стварэнні новага грамадства, нясе людзям высокія ідэі рэвалюцыйнага гуманізму, інтэрнацыяналізму, заклікае да актыўнай барацьбы за мір, за дружбу народаў, выхоўвае пачуццё патрыятызму і высокай грамадзянскасці.

Сацыялістычнае мастацтва стала магутным сродкам ідэйнага і маральнага выхавання мільёнаў людзей.

Адной з важнейшых аб'ектыўных асаблівасцей і ўмоў развіцця мастацкай культуры нашай краіны з'яўляецца яе шматнацыянальны характар. Больш як 100 нацый і народнасцей аб'яднаны ў нашай краіне ў добраахвотны саюз раўнапраўных і суверэнных рэспублік, пабудаваны на прынцыпах інтэрнацыяналізму, на агульнасці сацыяльна-эканамічнага і культурнага жыцця.

У культурнай палітыцы Савецкай дзяржавы з першых дзён яе існавання адно з вядучых месц займала задача захавання і развіцця нацыянальных форм і прагрэсіўных традыцый культуры ўсіх народаў, ліквідацыі культурнай адсталасці, народжанай палітыкай царскай Расіі.

За гады Савецкай улады створаны тэатры оперы і балета ва ўсіх саюзных і радзе аўтаномных рэспублік. Упершыню ў гісторыі культуры многіх народаў нарадзіліся драматычныя тэатры і нацыянальная драматургія. У драматычных тэатрах краіны п'есы ставяцца на 46 мовах народаў СССР. Ва ўсіх рэспубліках развіваецца кінамастацтва. Мастацкая і грамадска-палітычная літаратура выходзіць на 89 мовах народаў СССР.

За мінулыя дзесяцігоддзі паспяхова развівалася шматнацыянальная мастацкая культура як адзінае цэлае пры захаванні ўсёй непаўторнай своеасаблівасці нацыянальных форм і асаблівасцей мастацтва братніх народаў. Мы імкнёмся да таго, каб яшчэ шырэй уцягнуць працоўных у радасны працэс мастацкай творчасці, навучыць іх не толькі разумець і спажываць мастацтва, але і непасрэдна ўдзельнічаць у стварэнні эстэтычных каштоўнасцей. Скарачаючы рабочы дзень, паляпшаючы матэрыяльна-бытавыя ўмовы рабочых і сялян, вызваляючы больш вольнага часу для задавальнення іх асабістых духоўных патрэб, мы адкрываем новыя бязмежныя магчымасці для творчай самадзейнасці мас. Гэта датычыць і харавога мастацтва, і народных тэатраў, і выставак самадзейных мастакоў. У нас у краіне больш 12 мільёнаў удзельнікаў мастацкай самадзейнасці. Ва Усесаюзным фестывалі самадзейнага мастацтва, прысвечаным 50-годдзю Савецкай улады, удзельнічала больш 80 тысяч драматычных і больш 300 тысяч харавых, інструментальных і танцавальных калектываў.

**Савецкая дзяржава ўсяляк падтрымлівае і накіроўвае развіццё самадзейнага мастацтва і маральна і матэрыяльна: будуе клубы і дамы культуры (зараз іх налічваецца каля 140 тысяч), рыхтуе кіраўнікоў самадзейных мастацкіх калектываў, забяспечвае іх музычнымі інструментамі, рэквізітам, неабходнымі матэрыяламі і інвентаром, арганізуе дапамогу прафесіянальных калектываў і майстроў мастацтва.**

З першых дзён свайго існавання Савецкая дзяржава ўсімі мерамі развівала міжнародныя культурныя сувязі, улічваючы іх ролю ў справе дружбы, збліжэння і ўзаемаразумення народаў і іх ролю ва ўзаемаўзбагачэнні нацыянальных культур.

У сучасны момант культурныя сувязі нашай краіны падтрымліваюцца больш чым са 120 краінамі свету. У іх удзельнічаюць прадстаўнікі культуры ўсіх нацыянальнасцей нашай краіны. Больш 100 тысяч савецкіх дзеячоў культуры і мастацтва пабывала ў зарубежных краінах за апошнія 10 гадоў.

Савецкі Саюз уносіць дастойны ўклад у міжнароднае культурнае супрацоўніцтва, удзяляючы ўвагу правядзенню розных міжнародных мерапрыемстваў. Толькі сёлета ў нашай краіне з поспехам прайшоў міжнародны кангрэс арганізацыі па эстэтычным музычным выхаванні дзяцей і юнацтва (ІСМЕ). Днямі ў Маскве адкрываецца міжнародная канферэнцыя бібліятэчных работнікаў (ІФЛА). Мае адбыцца сесія Міжнароднага савета музеяў. Добрай традыцыяй стала правядзенне такіх буйных міжнародных мерапрыемстваў у нашай краіне, як музычны конкурс імя П. І. Чайкоўскага, Маскоўскі кінафестываль, конкурс класічнага балета, Міжнародная выстаўка кнігі, кінафестываль краін Азіі і Афрыкі ў Ташкенце і іншыя.

Пашырэнне міжнародных культурных сувязей дае нам упэўненасць, што яны будуць садзейнічаць развіццю сусветнай культуры ў цэлым, далейшаму ўздыму нацыянальных культур, збліжэнню, умацаванню ўзаемаразумення, міру і дружбе паміж народамі.

---

## ШЧАСЛІВАЙ ДАРОГІ!

*Выйшаў у свет першы нумар бюлетэня «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі»*

**Пастаянныя пакупнікі не адразу заўважылі яго на вітрынах газетных кіёскаў. Яго—гэта першы нумар інфармацыйнага навукова-метадычнага бюлетэня «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі» — орган Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.**

**Што вы знойдзеце ў першым нумары? У сваім слове да чытачоў рэдакцыя падкрэслівае галоўны напрамак бюлетэня — пазнаёміць з матэрыяльнай і духоўнай культурай беларускага народа ва ўсіх яе аспектах.**

**Адкрываецца першы нумар артыкулам старшыні Таварыства І .Ф. Клімава «Слава бацькоў натхняе моладзь», які закранае праблемы патрыятычнага выхавання нашай моладзі на традыцыях рэвалюцыйнай, баявой і працоўнай славы старэйшага пакалення. Супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР В. Церашчатава ў артыкуле «Выдадзены ў Беларусі» расказвае пра графічнае афармленне ленінскай літаратуры ў Беларусі. Ленінскай тэме прысвечаны таксама артыкул мастацтвазнаўцы Б. Крэпака — «Ленінскі план манументальнай прапаганды».**

**Цікава расказвае пра архітэктурную спадчыну беларускага народа і праблемы яе асваення доктар архітэктуры, прафесар Ул. Чантурыя.**

**Пад рубрыкай «Скарбніца сусветнай культуры» надрукаваны фотанарыс «Ленінградскі Эрмітаж». Пад рубрыкай «У свеце працы і прыгажосці» — матэрыялы пра развіццё архітэктуры і рамёстваў.**

**Пра адкрыццё музея народнага мастака Беларусі і РСФСР Вітольда Каэтанавіча Бялыніцкага-Бірулі расказвае А. Пысін, доктар гістарычных навук А. Хацкевіч прапануе чытачам нататку «Дзяржынскі і Беларусь».**

**Ёсць у выпуску літаратурныя матэрыялы, нарысы, нататкі, інфармацыя.**

**Мы звярнуліся ў рэдакцыю бюлетэня з просьбай расказаць пра планы на будучае.**

**— Бюлетэнь будзе выходзіць раз у квартал,—расказалі нашаму карэспандэнту.—У гэтым годзе падпісчыкі атрымаюць яшчэ тры нумары. Зараз падпісаны да друку другі нумар. У ім будуць змешчаны артыкул намесніка міністра культуры БССР А. Ваніцкага пра захаванне помнікаў гісторыі і культуры; метадычная распрацоўка «Ленін і культурная спадчына», якую падрыхтаваў намеснік старшыні Таварыства Ф. Барысевіч; артыкул Ю. Якімовіча «Каменнае дойлідства Брэсцкага раёна» і іншыя артыкулы, успаміны, весткі з пярвічных арганізацый Таварыства.**

# Вілія напоіць Свіслач



Тут будзе дно будучага мора.

## Крыху гісторыі з геаграфіяй

Панылая цяпер, пакорлівая і ціхая наша Свіслач. Нават не верыцца, што яшчэ параўнаўча нядаўна рака была светлай і мнагаводнай. Але ведаюць яе мінчане і бурнай. Не раз Свіслач выходзіла з берагоў, затапляючы лугі і палі, гарадскія вуліцы. Вясной 1931 года пад'ём вады быў настолькі нечаканым і імклівым, што людзям давялося ратавацца на стрэхах дамоў. Пра вялікія страты, якія прынесла навадненне, пісала газета «Звязда» 24 красавіка 1931 года.

Тады і было вырашана ўтаймаваць Свіслач. Да 1937 года былі выкананы ўсе праектна-вышукальныя работы і пачалося будаўніцтва вадасховішча «Ганалес». Але пасля года работ будаўніцтва было закансервавана. Адно на ўскраіне Мінска Свіслач была перагароджана невялікай плацінай, і ў дзень пачатку Айчыннай вайны адкрылася Камсамольскае возера. Той даваенны праект быў ажыццёўлены толькі ў 1955 годзе. У 15 кіламетрах ад сталіцы рэспублікі рэчышча Свіслачы перагарадзіла жалезабетонная плаціна. Шырока разлілося Мінскае мора...

Але на змену адной бядзе прыйшла другая. Рэчка заілілася, абмялела. І не толькі таму, што на рэчышчы паўсталі плаціны. Шматлікія прадпрыемствы кожныя суткі высмоктваюць з рэчкі дзесяткі тысяч кубаметраў вады. А ўзамен скідваюць вялікую колькасць шкодных адыходаў прамысловасці. Трапляюць у Свіслач і бытавыя сцекавыя воды. Рэчка, фактычна,ператварылася ў гарадскі калектар. Сталіцы стаў пагражаць водны голад.

Зараз у Мінску жыве ў чатыры разы больш насельніцтва, чым да вайны. У 1965 годзе сталіца спажывала 355 тысяч кубаметраў вады ў суткі (трэцяя частка яе ўзята са Свіслачы). Гэтак было пяць гадоў назад. Сёлета патрэба горада ў вадзе ўзрасла ў два разы. Пакуль што выручаюць падземныя крыніцы. Велізарная колькасць чыстай і вельмі смачнай вады аддаецца заводам і фабрыкам. Падземны міжмарэнны гарызонт у 35-кіламетровай зоне вакол Мінска можа даць 740 тысяч кубаметраў вады ў суткі. Гэта якраз столькі, колькі патрэбна будзе ў перспектыве траціць на пітныя і бытавыя патрэбы насельніцтва. Для заводаў і фабрык спатрэбіцца яшчэ 400 тысяч кубаметраў. Але дзе іх узяць?

Вучоныя прапаноўвалі некалькі варыянтаў перакідкі вады ў Свіслач. Называліся Нёман, Бярэзіна, Сож і іншыя рэкі, якія павінны былі стаць донарамі. Спыніліся ж на рацэ Вілія. 14 навукова-даследчых і праектных арганізацый на чале з інстытутам «Укрводаканалпраект» займаліся падрыхтоўчымі работамі. І вось у жніўні 1967 года Савет Міністраў СССР зацвердзіў праектнае заданне на будаўніцтва Вілейска-Мінскай воднай сістэмы працягласцю звыш 200 кіламетраў.

Вілія — адзін з буйнейшых прытокаў Нёмана. Як і ў Нёмана, дно Віліі, пясчанае, гравійнае, а вада празрыстая, халодная, смачная. Як і Нёман, яна велічна нясе свае воды сярод мурожных лугоў, сасновых лясоў, дуброў, бярозавых гаёў. На берагах можна знайсці бабровыя паселішчы. А вось на рыбу Вілія небагатая.

Не адна гэтая рэчка будзе донарам Свіслачы, не адна яна напоўніць будучае Вілейскае мора. (Мора ў сваё ўлонне павінна прыняць 260 мільёнаў кубаметраў вады — толькі крыху менш, чым у Нарачы). Яшчэ да таго, як уліцца ў вадасховішча, Вілія прыме з левага боку рэчку Дзвіносу, а справа — Сэрвеч. Вада ў Сэрвечы сцюдзёная, крынічная, тут водзіцца стронга. Захапляцца прыгажосцямі мясцовых краявідаў прыязджаюць нават з Прыбалтыкі і Ленінграда. Большасць спыняецца на прыватных кватэрах, а некаторыя ў гасцініцы ў пасёлку Людвінава (зверасаўгас «Беларускі»). Побач кафэ-рэстаран, кухні якога можа пазайздросціць любы гарадскі рэстаран. У будучым пад самае Людвінава падступіць рукаў Вілейскага мора.

Непадалёку адсюль цячэ Орпа. За тры кіламетры ад вусця яе загародзіць глухая плаціна, і рэчка павернe ўлева, пойдзе да мора новым шляхам — па спецыяльна пракапаным нагорным канале. А ўчастак старога рэчышча Орпы паміж плацінай і правабярэжнай дамбай будзе выконваць ролю калектара-зборніка дрэнажных вод з асушанага тарфяніка. Орпу акружаюць прыгожыя сасновыя бары, паветра тут чыстае, настоенае на хвойным паху. Наступная рэчка, якая ўпадае ў Вілію, — Касутка. Яе балоцістая пойма цалкам трапіць пад затапленне.

Амаль ад цэнтра басейна на поўдзень адыдзе дзесяцікіламетровы рукаў вадасховішча. Яго вада затопіць рэчышча Іліі і ўсю нізкую пойму. Ад правага берагу Іліі, непадалёку ад месца, дзе яна ўпадае ў Вілію, возьме пачатак 62-кіламетровы канал. Праз дваццаць кіламетраў Ілія зноў перабяжыць дарогу каналу. Каб размінуцца, канал пойдзе па жалезабетонных трубаводах пад Іліяй. Па такіх жа трубаводах канал пройдзе пад рэчышчамі Канатопкі і Гуйкі. Рэчку ж Удру жалезабетонная труба-вадавод з каналам перагародзіць. Труба, дадаткова ўмацаваная бетонам, стане своеасаблівай плацінай. Каля яе разальецца маляўнічае вадасховішча.

Але вернемся яшчэ да рэчкі Іліі. Перад тым, як сустрэцца з каналам, яна ўбярэ ў сябе з левага боку ваду Ледзвянёўкі і Шчаркі, а толькі размінецца з каналам — Рыбчанкі, Бервячанкі і Вязынкі.

Канал пройдзе па тэрыторыі Вілейскага, Маладзечанскага і Мінскага раёнаў. З дапамогай помпавых станцый вада адолее Мінскае ўзвышша. Ад вёскі Вязынка Маладзечанскага раёна вада пойдзе ўжо самацёкам у Свіслач. Рэчышча Свіслачы да Мінскага мора і пасля яго на ўчастку ў 120 кіламетраў, да самага ўпадзення ў яе Волмы, будзе паглыблена, а на асобных участках выпрамлена. У межах Мінска берагі апрануцца ў жалезабетон. Дно Свіслачы, а таксама Мінскага мора і Камсамольскага возера зараз ачышчаецца ад хламу і ілу.

Што ж дасць Вілейска-Мінская водная сістэма?

Сталіца рэспублікі атрымае дастатковую колькасць вады. Прыток вады ў Свіслачы павялічыцца ў пяць разоў, у будучым яна будзе скарыстоўвацца на пітныя і бытавыя мэты. Памаладзеюць Мінскае мора і Камсамольскае возера, спыніцца наступленне балота на вадаёмы. Свіслацкая вада напоўніць Лошыцкі і Сляпянскі ручаі, запоўняцца прыродныя ўпадзіны на ўскраіне мікрараёна Зялёны Луг і каля пятага млынкамбіната. З'явяцца сажалкі і ў іншых раёнах горада. Водная сістэма падштурхне рэканструкцыю і ўдасканаленне каналізацыйных і ачышчальных збудаванняў Мінска. Усе гарадскія і прамысловыя прадпрыемствы вымушаны будуць пабудаваць унутрызаводскія ачышчальныя ўстаноўкі і арганізаваць зваротнае водазабеспячэнне.

Вілейскае мора, канал і сама Свіслач ператворацца ў зону масавага адпачынку працоўных Мінска, Маладзечна, Вілейкі і многіх іншых населеных пунктаў. У навакольных лясах з'явяцца новыя санаторыі, дамы адпачынку, турысцкія базы, піянерскія лагеры. Некаторыя з іх ужо будуюцца.



На гэтых магутных быках перакінецца праз вадасховішча мост.

## Сёння на будоўлі

...Мы едзем па цудоўнай гравійцы. Па абодва бакі ўзвышаюцца векавыя сосны. Нават праз зачыненыя дзверцы пранікае церпкі пах смалы. Гаспадар машыны, інжынер Мікалай Гарноўскі, расказвае пра сённяшнія справы на новабудоўлі. На выгляд Гарноўскаму не больш трыццаці, твар загарэлы, мужны. Ён тры гады назад закончыў політэхнічны інстытут, практыку праходзіў на будаўніцтве Брацкай ГЭС. На берагі Віліі малады інжынер прыехаў адным з першых. Цяпер узначальвае на Вілейскім участку механізаваны атрад, у склад якога ўваходзіць 250 чалавек. Гэта — машыністы экскаватараў, скрэпераў, падымальных кранаў, бульдазерысты, трактарысты, шафёры, слесары-рамонтнікі. Яны тут галоўная, рашаючая сіла...

Машына выскачыла з зялёнага тунэлю і спынілася на высокім беразе. Перад нашым поглядам разгарнулася велічная панарама будоўлі. Унізе паблісквала блакітная стужка Віліі. За рэчкай, на смарагдавым фоне поймы жаўцеў авальны насып, каля якога снавалі трактары, самазвалы. Жоўты земляны насып ішоў і далёка ўправа. Над ім маячылі стрэлы падымальных кранаў, на схілах раз-пораз успыхвалі агні электразваркі. Ні на мінуту не змаўкаў гул матораў. Людзей заўважаеш не адразу. Ды іх і мала. Усюды працуе тэхніка. Такога скопішча машын сінявокая Вілія ніколі не бачыла на сваіх берагах. Міжволі ўспамінаюцца гады першых пяцігодак, будаўніцтва першых асушальных сістэм на Любаншчыне, калі дзесяткі тысяч людзей уручную капалі каналы, тонучы ў тлустай гразі...

Нечакана моцны выбух устрасянуў паветра. За ім пачуўся другі, трэці... Над зарэчным хмызняком паплыў рудаваты дым.

— Валуны падрываем, — сказаў Мікалай Савельевіч. — Іх тут — на кожным кроку. Ачышчаем дно мора, а заадно і будаўнічы матэрыял здабываем, які ідзе на абліцоўку адхонаў дамб. Звярніце ўвагу на той насып, што за рэчкай, — паказаў ён. — Гэта плаціна, у яе засыпалі звыш мільёна кубаметраў грунту. Не засыпана толькі месца, дзе паўстане вадаскід. Ён будзе абсталяваны сегментнымі засаўкамі, стотоннымі падымальнымі электракранамі, устаноўкамі сігналізацыі сувязі і г. д. Перакрываць рэчышча Віліі будзем на прадвесні 1973 года. Запаўняцца мора будзе галоўным чынам за кошт паводкавых вод, уверх па рацэ разальецца на 30 кіламетраў.

Едзем па насыпу левабярэжнай дамбы. Каляіна глыбокая, выбітая цяжкімі самазваламі. Але «УАЗ» пераадольвае перашкоды. З вышыні нам добра праглядваецца мясцовасць. Справа да самага насыпу падступае лес, а злева відаць, як магутныя трактары з карчавальнікамі вырываюць з зямлі тоўстыя разлапістыя пні.

— Тут да нас ужо леснікі прайшлі, — заўважыў Мікалай Савельевіч. — Дзелавую драўніну вывезлі з паўтары тысячы гектараў, а мы рэшткі прыбіраем. Трэба, каб дно мора было чыстае.

На ўсю вышыню схілу выкладзена з жалезных прэнтаў рашотка. Яе квадраты выразна відаць на фоне дробнага шэрага каменю. Тут гаспадараць электразваршчыкі. Нават пры яркім сонечным святле ўспышкі слепяць. Спыняемся, выходзім.

— Знаёмцеся, мой цёзка Мікалай Шытнікаў — майстар участка з першага будаўнічага ўпраўлення, — прадстаўляе маладога русавалосага чалавека Мікалай Савельевіч. — Яго людзі абліцоўваюць адхоны, а тэхніка працуе наша.

Каля нас плаўна праплыла металічная бодня. Секунда — і ўніз на рашотку шамнула вялікая порцыя бетоннай масы. Некалькі хлопцаў і дзяўчат разроўніваюць раствор вібратарамі. Атрымліваюцца бетонныя пліты па сто квадратных метраў. Паміж імі, на стыках, — фільтры з гравію. Такая абліцоўка называецца маналітнай. Фільтрацыя вады праз яе будзе нязначная, абліцоўка вытрымае самыя моцныя ўдары хваляў, нават штормы, якімі можа пагражаць будучае мора. Умацоўваюцца таксама адхоны і звонку дамбы.

— Многа цяжкасцей, — уздыхае Мікалай Савельевіч. — Раствор даводзіцца вазіць ажно з Маладзечна: наш бетонны завод усё яшчэ будуецца. Умацоўваць адхоны абавязкова трэба закончыць сёлета. Нам тут нават студэнцкі атрад з Мінскага тэхналагічнага інстытута памагае. Стараюцца хлопцы, перавыконваюць заданні.

Ужо седзячы ў машыне, якая паволі спускалася ўніз па адхоне, захацелася яшчэ раз паглядзець на аб'ект. Ён працягваў жыць у гуле матораў, успышках электразваркі. А ў далечыню, да самага гарызонта, ішла ахоўная дамба, апранутая ў новенькі светлашэры бетонны панцыр.

Цяпер наш шлях — на правы бераг Віліі. Кружым ажно цераз Вілейку. За горадам «УАЗ» звярнуў улева, паімчаўся па шырокай бліскучай ад сонца шашы. Кюветы жаўцелі свежай, акуратна прыгладжанай зямлёй. Насустрач нам нesліся аўтобусы, лесавозы, самазвалы, легкавікі, трашчалі матацыклы. Напружаным жыццём жыў гэты новы, толькі што пабудаваны кавалак шашы. Яна ішла ўздоўж берагу будучага мора.

Праз кіламетраў сем, падбегшы ўдотык да насыпу дамбы, асфальт скончыўся. Сюды раз-пораз пад'язджалі самазвалы з зямлёй. Бульдозеры, экскаватары «падпрацоўвалі» грунт, фармавалі адхоны.

— Апошнія метры насыпаем, — сказаў Мікалай Савельевіч, — гэтая дамба самая доўгая. Яна будзе ахоўваць ад мора асушаныя трафянікі, палі і лясы, прыбярэжныя населеныя пункты.

Цераз праём у дамбе выехалі на старую дарогу, выбрукаваную каменнямі. Над ёю схіліліся магутныя кроны стогадовых бяроз. Нават сонечныя праменні не маглі прабіцца скрозь іх густую лістоту. Дарога гэта, якая так добра паслужыла людзям, дажывае свае апошнія дні. Яна трапіць у зону затаплення.

Мост цераз Вілію. Стары. А побач з ім узвышаюцца велізарныя жалезабетонныя быкі. Восем гігантаў, як на парадзе, выстраіліся цераз усю пойму ракі. Будучы новы мост... Ён перакінецца з аднаго берагу вадасховішча на другі, па ім пройдзе новая шаша.

Праехалі стары мост, зноў апынуліся на левым беразе Віліі. На ростанях зварочваем управа, у лес. Хутка бор пачаў радзець, выяснілася вялікая паляна. Па самым ускрайку яе стаялі шэрыя, зялёныя, блакітныя вагончыкі, нейкія збудаванні з дошак. Трошкі далей — скрэперы, бульдозеры, экскаватары...

— Гэта палявы стан будаўнікоў канала, — тлумачыць Мікалай Савельевіч. — Тут інтэрнат, і сталоўка, і часовая майстэрня па рамонту тэхнікі. Гэтыя машыны, што вы бачыце, пастаўлены на прафілактыку.

Мы не сталі затрымлівацца тут доўга, а паехалі проста на гул матораў. З кожным метрам ён нарастаў, пашыраўся, рабіўся больш магутны. І вось перад намі пачатак трасы канала. Яго глыбіня тут не менш дзесяці метраў. Сям-там дно заліта вадою. Яе адпампоўвае земснарад. А з абодвух бакоў—цэлыя горы пяску і суглінку. Экскаватары, бульдозеры, скрэперы раскідваюць, расцягваюць, разроўніваюць зямлю.

— Колькі ўжо тут вынята грунту? —цікавімся мы.

— Амаль мільён кубаметраў, — адказвае ён.

Усё гэта — злева. А справа бяжыць Ілія. Толькі двухметровая перамычка аддзяляе яе рэчышча ад вусця канала. Бераг, дзе мы стаім, высокі. Каля самага абрыву раскінуўся арэхавы гай. Сярод зарасніку ўзвышаюцца дубы-веліканы. Крыху далей —сасновы бор. Райскі, непаўторны па прыгажосці куточак прыроды!

Супрацьлеглы бераг ракі адлогі, да яго прымыкае роўная, шырокая пойма. У кіламетры адсюль у Вілію якраз і ўпадае Ілія. Калі разальецца мора, яно запоўніць вадою і гэты падводзячы ўчастак канала. Па яго рэчышчы вада самацёкам пойдзе да першай помпавай станцыі, дзе ўжо выкапаны велізарны катлаван.

Каб у канал не трапілі паверхневыя сцёкавыя воды, прадугледжана насыпаць на раўнінах высокія набярэжныя, а там, дзе траса пройдзе ля падножжа ўзгоркаў, пабудуюцца спецыяльныя водазборнікі. З іх па трубах, пракладзеных пад каналам, будуць адводзіцца сцёкавыя воды. Вілейская вада не будзе забруджвацца.

Каля ахоўных дамб, там, дзе раскінуліся асушаныя тарфянікі, прадугледжана пабудаваць дзве дрэнажныя помпавыя станцыі з прыёмнымі басейнамі. Сюды будзе сцякаць вада з калектарнай сеткі, а таксама тая, што прафільтруецца цераз дамбу. Як толькі яе ўзровень у басейнах дасягне вызначанай адзнакі, помпы аўтаматычна, без умяшання чалавека, уключацца і перакачаюць ваду ў мора. Гэтыя станцыі з'явяцца надзейным абаронцам урадлівых земляў ад забалочвання.



Абліцоўваць дамбу памагаюць і студэнты.

Для эксплуатацыі Вілейска-Мінскай воднай сістэмы намечана стварыць спецыяльнае ўпраўленне, якое размесціцца ў Мінску. Адсюль, з цэнтральнага дыспетчарскага пункта, абсталяванага пультам дыстанцыйнага кіравання, складанымі электроннымі і тэлемеханічнымі ўстаноўкамі, будзе ажыццяўляцца кантроль за работай галоўнага гідравузла і помпавых станцый.

Шмат цікавых людзей працуе на будаўніцтве Вілейска-Мінскай воднай сістэмы. На адным Вілейскім участку занята зараз звыш 600 чалавек. З некаторымі лепшымі механізатарамі мы пазнаёміліся.

Вось машыніст экскаватара Міхаіл Хоміч. Міхаіл мясцовы, з-пад Вілейкі. Прафесіяй механізатара авалодаў яшчэ дзесяць гадоў назад, калі служыў у арміі. Пасля дэмабілізацыі пракладваў каналы, асушаў балоты на Мядзельшчыне. Ён таксама адзін з першых, хто прыйшоў на бераг Віліі вясной 1968 года. Першы кубаметр грунту ў левабярэжную дамбу, з якой пачыналася будоўля, насыпаў іменна ён, Міхаіл Хоміч. За няпоўныя два з паловай гады механізатар выняў амаль 300 тысяч кубаметраў зямлі — больш 100 цяжкавагавых чыгуначных саставаў. Яго машына ніколі не ведае прастою. Заўсёды дагледжаная, адрэгуляваная, яна добра служыць свайму гаспадару. Паўтары-дзве нормы за змену — штодзённы працоўны паказчык Міхаіла.

А ў камсамольца Тадэвуша Валковіча стаж яшчэ невялікі. Ён толькі год назад закончыў сельскае прафтэхвучылішча ў Друі. Сюды прыехаў адразу ж пасля вучобы. Спачатку быў памочнікам у вопытнага механізатара Пятра Пагуды, а цяпер самастойна кіруе экскаватарам, працуе на трасе канала. І добра працуе, яшчэ не было дня, каб ён не перавыканаў нормы. Шмат добрага можна сказаць пра вадзіцеляў магутных скрэпераў Івана Бабко і Сяргея Валканоцкага. Далёка ідзе слава пра бетоншчыкаў Эдуарда Кухарэнку, Кіру Мароз, пра цесляра Ілью Соніча і многіх іншых. Кідаецца ў вочы, што працуе ў асноўным моладзь — энергічная, бадзёрая. Яна многа ўжо зрабіла, і магла б зрабіць яшчэ больш, калі б не...

Вось пра гэтае «калі б» і хочацца пагаварыць асобна.

## Праблемы, праблемы...

Яшчэ ў пачатку 1968 года Савет Міністраў БССР даручыў Міністэрству меліярацыі і воднай гаспадаркі рэспублікі стварыць спецыяльнае ўпраўленне на правах трэста для будаўніцтва Вілейска-Мінскай воднай сістэмы. І яно было створана — «Віліямінскводбуд». Яму былі выдзелены неабходная тэхніка, матэрыяльныя сродкі. Па праекце патрэбна перамясціць каля 40 мільёнаў кубаметраў грунту, укласці каля 300 тысяч кубаметраў зборнага і маналітнага жалезабетону, змантыраваць тысячы тон металаканструкцый і арматуры, выканаць шэраг іншых работ. На ўсё гэта саюзны ўрад асігнаваў звыш 60 мільёнаў рублёў.

Здавалася б, што ёсць усе магчымасці будаваць хутка, зладжана, высакаякасна. Аднак прайшла ўжо амаль палова тэрміну, намечанага для ўводу ў эксплуатацыю сістэмы, а зроблена толькі шостая частка аб'ёму работ. Асабліва прыкметна знізіліся тэмпы будаўніцтва сёлета. Заданне сямі месяцаў выканана ўсяго на 63,6 працэнта. Такое становішча склалася перш за ўсё таму, што міністэрства даручыла «Віліямінскводбуду» весці работы на іншых аб'ектах, якія не адносяцца да воднай сістэмы. З асноўнай будоўлі знята многа людзей, тэхнікі. Будматэрыялы, якіх і без таго мала, распыляюцца. У чым жа справа? Аказваецца, міністэрства перш за ўсё зацікаўлена ў меліярацыі, асушэнні балот. А будаўніцтва сістэмы адсоўваецца на апошняе месца, будоўля жыве на правах пасынка.

У галоўнага падрадчыка зараз у падначаленні чатыры самастойныя ўпраўленні: адно механізацыі і тры будаўніча-мантажныя.

Мы гутарылі з начальнікам БМУ-1 В. Лузікам.

— Наша вытворчая база фактычна яшчэ ў стадыі стварэння, — сказаў ён.—Два з лішнім гады будуем бетонны завод. Маглі б яго даўно ўжо здаць у эксплуатацыю, але толькі нядаўна атрымалі абсталяванне. А без бетону на такой будоўлі, як наша, няма чаго рабіць. Ад гэтага і частыя прастоі на аб'ектах. Не хапае ў нас і рабочых. Не затрымліваюцца яны галоўным чынам таму, што няма дзе жыць. Сродкі на будаўніцтва часовых памяшканняў ёсць, але для іх не даюць зямельных участкаў. Каля будучага мора будаваць часовае жыллё забараняе абласны архітэктар: маўляў, тут будзе зона адпачынку. Будуйце, кажа, капітальныя дамы. Але ж на капітальныя нам сродкі не выдзелены. Вось і атрымліваецца зачараванае кола. Праўда, на цэнтральнай сядзібе ёсць інтэрнат на 36 месц і 16 зборна-шчытавых домікаў, некалькі перасоўных вагончыкаў стаіць на палявых станах. Але ж гэта кропля ў моры. У асноўным рабочыя жывуць на прыватных кватэрах.

Мы пераканаліся, што ўпраўленне «Віліямінскводбуд», як генеральны падрадчык, не патрабуе па-сапраўднаму з субпадрадных арганізацый, і тыя не выконваюць дагаворных абавязацельстваў. Так, Мінскі участак трэста «Гідрамеханізацыя» (начальнік А. Марозаў) паўгадавое заданне на аб'ектах сістэмы выканаў усяго на 30 працэнтаў, а ўчастак трэста «Саюзшахтаасушэнне» (начальнік С. Майскі) — усяго толькі... на 7 працэнтаў. Па віне апошняга дасюль не пачалі капаць катлаван пад будаўніцтва водаскіду, там трэба папярэдне прабіць некалькі свідравін для адводу падземных вод.

Зрывае заданне па будаўніцтве высакавольтнай лініі электраперадач, якая павінна прайсці ўздоўж трасы канала, трэст «Захадэлектрасеткабуд». Не выконвае ўстаноўлены план будаўніцтва дарожна-маставых збудаванняў і Галоўнае ўпраўленне шасейных дарог пры Савеце Міністраў БССР.

У зоне затаплення стаяць яшчэ сотні гектараў лесу — каля 70 тысяч кубаметраў дзелавой драўніны і драбналесся. Але Міністэрства лясной гаспадаркі марудзіць, не высякае і не вывозіць іх.

З дна будучага мора патрэбна знесці каля 500 індывідуальных дамоў, шмат калгасных, саўгасных, кааператыўных і дзяржаўных памяшканняў. А раз знесці, то і пабудаваць. Але дасюль гэта вялікая работа фактычна яшчэ не пачыналася. Не ўсе людзі ведаюць, куды ім давядзецца перасяляцца. Пераносіць будынкі з зоны затаплення, акрамя ўпраўлення «Віліямінскводбуд», павінна Міністэрства сельскага будаўніцтва БССР і Белміжкалгасбуд. Справа гонару іх калектываў праявіць максімум увагі да перасяленцаў. Дамы трэба будаваць так, каб людзі сказалі дзякуй за клопаты, каб прыбярэжныя населеныя пункты выглядалі прыгожа і сучасна.

Хацелася б звярнуць увагу і на такія факты. Людзі, як кажуць, жывуць не хлебам адзіным. Пасля работы яны хочуць культурна, карысна адпачываць. Але на аб'ектах, асабліва аддаленых, па некалькі дзён не бывае свежых газет і часопісаў. Перад будаўнікамі не выступаюць прафесіянальныя і самадзейныя калектывы. Вілейскі раённы аддзел культуры і Дом культуры чамусьці забылі аб будаўніках гэтай сістэмы.

Нам давялося чуць ад будаўнікоў папрокі і ў адрас Вілейскага райспажыўсаюза, які кепска забяспечвае іх прадуктамі харчавання. У сталоўцы, якая знаходзіцца на канале, якасць страў нізкая і вельмі абмежаваны іх выбар.

І такіх нявырашаных праблем у будаўнікоў сістэмы многа. Сёлета ім трэба асвоіць 7,5 мільёна рублёў капіталаўкладанняў. Пакуль што асвоена менш паловы гэтай сумы. Такая раскачка да дабра не давядзе.

Пасля веснавой паводкі 1974 года сістэма павінна быць здадзена ў пастаянную эксплуатацыю. Аб гэтым запісана ў рашэнні ўрада рэспублікі, у праектным заданні.

Хочацца верыць, што цяжкасці хутка будуць адолены і ўсё, што намечана, ажыццявіцца: наш прыгажун — Мінск атрымае ў дастатковай колькасці ваду, а працоўныя — цудоўную зону адпачынку, сапраўдную беларускую рыўеру.

**А. ХУДАВЕЦ,**
спец. кар. «Літаратуры і мастацтва».

Фота Ул. КРУКА.

31 ліпеня гэтага года ў тыднёвіку «Літаратура і мастацтва» надрукаваны спіс твораў, вылучаных на атрыманне Дзяржаўных прэмій БССР у галіне літаратуры і мастацтва. У сённяшнім нумары мы пачынаем абмеркаванне гэтых твораў.

Да ўдзелу ў абмеркаванні запрашаюцца ўсе чытачы нашай газеты.

# КУРГАН СЛАВЫ НАРОДНАЙ

ТЫСЯЧЫ людзей прыязджалі на 21 кіламетр Маскоўскай шашы пад Мінскам, везлі сюды зямлю з усіх канцоў Беларусі, якая паступова складала велічны курган — Курган славы. Гэта пачалося тры гады назад. Курган павінен быў стаць адным з самых велічных помнікаў Беларусі. Гэтага патрабавала падзея, у гонар якой ён быў узведзены, гэтага патрабавала памяць аб двух мільёнах загінуўшых у час вайны беларусаў, патрабавалі пачуцці тысяч людзей, што кінулі жменьку зямлі на месца будучага кургана.

Многа месяцаў рос рукатворны пагорак. Курган рос на нашых вачах. Ён нараджаў свае паданні і песні, як тыя старыя курганы, якія насыпаны нашымі продкамі.

...На адкрыццё кургана мы ехалі аўтобусам, і ўжо адразу за Гарадзішчамі ўсе пачалі глядзець у вокны. Нарэшце ўдалечыні адкрыўся велізарны пагорак з узнятымі ў неба штыкамі і залацістай стэлай. Тысячы людзей ішлі па сцежках да кургана і ад яго, жывы ланцуг бясконца рухаўся па лесвіцы да вяршыні...

Я ўспомніў пра гэта, калі даведаўся, што курган вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР 1970 года. На аўтараў работы—скульптара А. Бембеля, архітэктара А. Стаховіча—клалася вялікая адказнасць. Іх работа павінна была быць на ўзроўні тых пачуццяў, якімі жылі ўсе мы, ствараючы курган у славу салдат і партызан, якія вызвалілі Беларусь.

Ці ўдаўся ансамбль Кургана славы? Ці аб'ядналіся ў ансамблі велізарная маса зямлі, інжынерныя разлікі і скульптура?

Курган—просты і строгі. На яго вяршыні—чатыры штыкі, якія сімвалізуюць баявое адзінства франтоў, што прынеслі рэспубліцы свабоду. Як задумлівае воблачка, вісіць над курганам залатая стэла. Суровы малюнак барэльефа расказвае пра тых, чыёй памяці прысвечаны курган. Малюнак добра чытаецца, лаканічны і лёгкі. Кругавая стэла зрушчана адносна цэнтра вяршыні і таму паміж курганам і скульптурай, якая яго вянчае, прыкметна нейкая зусім неабходная мяжа. Штыкі і стэла ў адзінстве з курганам гарманічна яго завяршаюць.

Вялікае значэнне ў агульным рашэнні помніка мае колер: залатыя блікі мазаічнай стэлы і сярэбраны — штыкоў мякка гарманізуюць з зелянінай кургана, з блакітам неба. Скульптура здаецца лёгкай, амаль празрыстай, яе контуры таюць у паветры.

Зручная лесвіца на вяршыню і з вяршыні ляжыць на кургане як своеасаблівы вянок. Бетонныя прыступкі ўтвараюць ажурную канструкцыю, якая з'яўляецца істотным элементам ансамбля і злучае скульптуру з падножжам, звязвае камень-прысвячэнне з барэльефам, з сімвалічнымі штыкамі.

Калі па гэтых прыступках падымаешся на вяршыню, быццам абыходзіш барэльеф па кругу. Мяняецца строй твараў воінаў, кожны выклікае свае асацыяцыі.

Знутры стэла выкладзена мазаікай багатых чырвоных таноў. У складаным узоры адчуваецца феерыя святочных салютаў Перамогі. Гэта зроблена ў такт з агульным настроем, і гэтым завяршаецца сэнсавая лінія помніка. А вось надпіс на крузе стэлы, якая ўслаўляе армію, на мой погляд, вырашаны не лепшым чынам. Ён паўтарае словамі тое, што расказвае камень, што поўна выказана барэльефам і чоткім лаканізмам штыкоў. Напэўна, было б лепш, калі б на стэле можна было прачытаць назвы воінскіх часцей і партызанскіх атрадаў, якія прымалі ўдзел у вызваленні,—адным словам, тое, што канкрэтызавала б змест падзеі, у гонар якой насыпаны курган.



Курган славы.



Фрагмент помніка на Кургане славы.

Зверху добра відаць удалая архітэктурная планіроўка месца, на якім стаіць Курган славы. Яно мае форму няправільнага чатырохкутніка, з усіх бакоў акрэслена шэрымі стужкамі шашы, за якой пачынаюцца палі і лясы. У чатырохкутніку ўздоўж Маскоўскай шашы ідзе дарожка з бетонных пліт, а ад іншых дарог да кургана вядуць сцяжынкі, зробленыя не пад шнур, а так, быццам іх пратапталі падарожнікі. Яны ўтвараюць арыгінальны малюнак на зялёным партэры. З глядзельнай пляцоўкі гэта выглядае вельмі прыгожа і ўзмацняе ўражанне ад кургана.

Даволі вялікі штучны вадаём ажыўляе пляцоўку і арганічна ўключаецца ў ансамбль.

Усё гэта выглядае натуральна і велічна.

Складаная задача, якая стаяла перад аўтарамі, як мне здаецца, вырашана. Несумненна, што Курган славы стане ў лік нашых лепшых памятных манументальных ансамбляў.

Я лічу, што прысуджэнне яму Дзяржаўнай прэміі БССР будзе заканамерным і натуральным.

К. ТАРАСАЎ,
інжынер.

# «У СПЁКІ ЧАС, НА ЎЛОННІ ДАГЕСТАНА...»

Аркадзь Куляшоў.
Пераклады з Лермантава.

Каторы ўжо раз хачу і не магу растлумачыць сабе неадчэпна-пакутлівую, чараўнічую ўладу лермантаўскіх радкоў:

В полдневный жар в долине Дагестана
С свинцом в груди лежал недвижим я...

Мы не ведаем, што папярэднічала гэтаму. Можа, чалавек падарожнічаў з казённай паперай «по казённой надобности»; горскія кулі рассеялі ненадзейны канвой—і вось у выніку гэта:

Глубокая еще дымилась рана,
По капле кровь точилася моя.

Можа, Пячорын гнаўся за недасяжным шчасцем: верны конь, высіліўшыся, упаў на дарозе і сканаў, а гаспадара яго напаткала ўсё тая ж куля. А можа, чалавек сам падняў на сябе руку...

А ведаем мы вось што:

Чалавек адзін ляжыць на пяску даліны, сонца няшчадна паліць жоўтыя скалы, а адначасна і яго, бо спіць ён «мёртвым сном». Толькі «мёртвы сон» гэты яшчэ пакуль не смерць, гэта сапраўды сон.

І вось мроіцца яму, магчыма, Пецярбург, гасціная, шумлівае застолле пад залаціста-дымнымі люстрамі, і звон бакалаў, і ліхаманкавыя, наэлектрызаваныя бляскам раскошы, гуллівай весялосцю позіркі, і ён, той, хто спіць мёртвым сном, кожнай жылкаю сваёй істоты прысутнічае там, у гэтай залаціста-дымнай зале. О, як яму знаёмае ўсё тут, як ён ведае ўсё пра іх, як ведае ўжо ўсё, нарэшце, наперад і пра сябе, але ж яны... не ведаюць! І яму, мусіць, ад гэтага так горка ў гэтай ягонай ужо ніколі непераадольнай, але пакуль яшчэ пачалавечы ўсвядомленай самоце.

Яму трошкі шкада сябе, але прызнацца ў гэтым ён здолеў бы толькі той, што

...в разговор веселый не вступая,
Сидела там задумчиво одна,
И в грустный сон душа ее младая
Бог знает чем была погружена;

---

В ОПЫТНАМУ тэарэтыку раптам здалося, што Купалава «Раскіданае гняздо» блізка «да творчага вопыту Чэхава». Тэарэтыка падвяла цытата з Горкага. Горкі лічыў, што ў п'есах Чэхава «рэалізм узвышаецца да адухоўленага... сімвала». У «Раскіданым гняздзе» таксама. Далей пачынае дзейнічаць чыста фармальны сілагізм: бяроза не дуб і яліна не дуб; значыць, бяроза і яліна адно і тое ж. «Вішнёвы сад» — не «традыцыйны» рэалізм, драма Купалы таксама; значыць, яны падобныя. А цяпер уявіце сабе, каб у доме Раneўскіх паявіўся Незнаёмы з вехай альбо Сымон з крыжам...

У адным з сваіх артыкулаў Рыгор Шкраба спасылаецца на гэты, даволі сумны факт тыповай чытацкай абераціі: мастацкі твор прачытаны ў «чужым», не ўласцівым яму святле. Сам жа Рыгор Шкраба добра ўмее «чытаць тэкст так, як ён напісаны», і вучыць гэтаму ўмельству іншых. Іменна **вучыць,** быццам цярплівы настаўнік, які разумее, што ў праграмах і «распрацоўках» яшчэ **не ўсё** і многае **не так** і што чытанне—актыўны душэўны працэс, намаганне, мабілізацыя разумовых і эмацыянальных сіл чалавека.

Возьмем тое ж «Раскіданае гняздо». Пра гэту драму Купалы ў нас напісана нямала. І нямала справядлівага, слушнага. Шкраба лепш за іншых **прачытаў** драму менавіта ў «ключы», у якім яна задумана і рэалізавана. І гэта чуйнае прычытанне яшчэ раз «адкрыла» нам тую бясспрэчную ісціну, што ў кожным сапраўдным творы жыццёвая «натура» не проста ўзнаўляецца, а трансфармуецца **думкай** пісьменніка і што гэта думка стварае новую вобразную рэальнасць. Р. Шкрабу ўдалося паказаць, што ў рамантычна-ўмоўным «Раскіданым гняздзе» мера гэтага пераўтварэння высокая.

«Адмяжоўваючыся ад дробязей жыцця, ад дэталей штодзённага побыту, пісьменнік дасягае надзвычайнай узбуйненасці мастацкіх вобразаў, якія перарастаюць значэнне мастацкіх дэталей»,—піша крытык. І далей

**И снилась ей долина Дагестана;**
**Знакомый труп лежал в долине той;**
**В его груди дымясь чернела рана,**
**И кровь лилась хладеющей струей.**

Вось і ўсё. І названа ўсё гэта — «Сон». Чалавеку «с свинцом в груди» сніцца вечаровае баляванне «в родимой стороне», а некаму ўжо там, далёка адсюль, сніцца даліна Дагестана і знаёмы труп на ёй. Сон у сне. І ўсё гэта зноў жа заключана ў сон, бо піша ж пра ўсё гэта **жывы** чалавек, бо яму ўсё гэта бачыцца... у сне.

Пяць строф. Апошняя паўтарае і па-свойму ўзмацняе першую. Кола замыкаецца. Даліна Дагестана настолькі ж ілюзорная, як і гасціная ў Пецярбургу, і настолькі ж канкрэтная ў сваёй рэальнасці, як і яна.

Можа, тут уся загадка і разгадка верша.

Я мерыўся пісаць пра пераклады Аркадзя Куляшова з Лермантава і чамусьці пачаў са «Сну», з арыгінала. Спачатку напісаў вось гэта, а пасля зазірнуў у пераклад. Мяне цікавіла: супадзём ці разыдземся мы з перакладчыкам у разуменні верша, як, якім чынам, якімі сродкамі перадасць ён менавіта ілюзорную рэальнасць такой складанай рэчы, як «Сон», яе шматпланавасць і настраёвую шматгалосасць.

Пераклад першай страфы спачатку як бы расчараваў.

**У спёкі час, на ўлонні Дагестана,**
**Свінцом смяротным быў прыкуты я;**
**Глыбокая яшчэ дыміла рана;**
**Па кроплі кроў сачылася мая.**

Супраць сэнсу і духу лермантаўскіх радкоў тут граха няма, усё перададзена вельмі дакладна і выразна, праўда, можа, нават залішне выразна. Што я маю на ўвазе? У першай страфе верша ў Лермантава ёсць своеасаблівая аўтацытата («С свинцом в груди...»), а таксама прыглушаная, далёкая, але ўсё ж заўважная цытата з Пушкіна. «С свинцом в груди лежал недвижим я». І аўтацытата і цытата па сутнасці сумясціліся ў адным радку. Памятаеце, ў Пушкіна: **«Недвижим он лежал** и странен был томный мир его чела».

Зразумела, перадаць на іншай мове такую цытатнасць амаль немагчыма. Мы і не дакараем, урэшце, за гэта аўтара. Проста канстатуем: нейкіх дадатковых асацыятыўных токаў страфа ў выніку ўсё ж пазбавілася. Дарэчы, пра «ток», але толькі ў іншым значэнні. У Лермантава напісана: «По капле кровь **точилася** моя».

«Точилася» — ад слова «ток» (цекчы). Наўрад ці парушыў бы перакладчык нормы беларускай мовы, каб пакінуў лермантаўскае «тачылася», без замены на «сачылася».

Другая страфа, на нашу думку, перакладзена добра. Трэцяя і чацвёртая—выдатна. Тут, у гэтых дзвюх строфах, перакладчык як бы скандэнсаваў усе цяжкасці, якія падсцерагалі яго, і ўдала, бліскуча справіўся з імі.

**І родны сніў я край, і вечаровы**
**Баль бачыў я, і чуў мой востры слых,**
**Як пра мяне вясёлыя размовы**
**Сярод жанок вяліся маладых.**

**Але адна, пад люстраў яркім ззяннем,**
**Да жартаў прычыніцца не магла,**
**І сумным сном, трывожым прадчуваннем**
**Душа яе ахоплена была.**

Цяжкасці ўяўлялі два лермантаўскія радкі:

**И снился мне сияющий огнями**
**Вечерний пир в родимой стороне.**

Стылістычна, адэкватна метрычна гэта цяжка памясціць у адпаведна беларускія радкі. Перакладчык размяркоўвае сэнс лермантаўскай паэтычнай фармуліроўкі на дзве страфы перaклада. У Лермантава на першым плане «вечерний пир» і ўжо як бы мімаходзь канкрэтызавана, што гэта «пир в родимой стороне». Перакладчык пачынае: «І родны сніў я край, і вечаровы баль бачыў я, і чуў мой востры слых...» «Ёсць проста вечаровы баль, але «блистающего огнями» пакуль няма (ён у чацвёртай страфе: «...пад люстраў яркім ззяннем»). Затое ёсць тройчы паўторанае «і», чаго не знаходзім у Лермантава. Чым выклікана гэта?

Пачатак трэцяй і пятай строф у Лермантава паўтараецца:

**И снился мне сияющий огнями...**
**. . . . . . . . . . . . . . .**
**И снилась ей долина Дагестана...**

Перакладчык не здолеў, ці не захацеў захаваць гэтага, кампенсаваўшы страту ўзмацненнем эмацыянальнага ладу ўсёй трэцяй страфы (тры побач пастаўленыя «і»).

Ці можам мы апраўдаць тут перакладчыка? Здаецца, так.

Дык вось, дарагі чытач. За гэты час вы прывыклі ўжо да таго, як гучыць «Сон» па-беларуску? Значыць, будзем чытаць так: «У спёкі час, на ўлонні Дагестана...»

Міхась СТРАЛЬЦОЎ.

# СТАЛЫ СВЕТАПОГЛЯД МАСТАКА

Калі чытаеш спіс кандыдатаў на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР адразу ж з'яўляецца ўпэўненасць — Леанід Рахленка варты такой узнагароды. Акцёр прызнаны публікай даўно, яго выступленні на сцэне заўсёды вызначае дакладны, артыстычны выкананы малюнак вобраза.



Л. Рахленка (справа) у ролі Бубнава.

Мне давялося назіраць, як аднойчы Леанід Рыгоравіч у пастаноўцы радыёспектакля шукаў свой вобраз Э. Тэльмана — гэта была самаадданая праца акцёра - аналітыка, які грунтуе ўсё на дакладных фізічных дзеяннях і ўчынках героя, ідзе ад правільнага самаадчування ў прапанаваных умовах. Аднойчы К. Станіслаўскі сказаў, што артысту трэба быць трохі паляўнічым, які са сваёй памяці здабывае нешта з дапамогай «вабіка», што дапамагае ў лесе залучыць птушку. Мабыць, цяжка будзе сказаць, якімі «вабікамі» карыстаецца Л. Рахленка, але яны часцей за ўсё і нараджаюць у яго правільнае адчуванне малой і вялікай праўды ў псіхалагічным і эмацыянальным раскрыцці вобраза. Унутраная сфера жыцця чалавека, якая і дыктуе тэкст ролі ў п'есе, — вось што перш-наперш цікавіць гэтага артыста. Ад праўды самапачуцця ён рухаецца да мастацкай і грамадскай тыпізацыі героя. Таму яму і верыш, таму ён пераконвае ў лепшых сваіх ролях.

Каму давялося глядзець спектаклі «На дне» і «Апошняя ахвяра», ведаюць, што на цяперашнім этапе свайго творчага шляху Л. Рахленка дэманструе выдатнае акцёрскае майстэрства якраз такога плана. Яго Бубнаў і Флор Прыбыткоў — людзі розныя. На сумленні Бубнава—злачынства, ён паглыбіўся ў самога сябе і нікога ў душу не пускае, але раптам пачуў песню, падцягнуў яе сам — і нешта чалавечае, не канчаткова забітае бліснула і ў гэтай істоце. Выразная характарыстыка, дадзеная артыстам герою па-горкаўску, не глушыць таго падтэксту, што ёсць у ролі. І гэта гучыць пераканаўча! А Прыбыткоў, той, што за свае грошы, здаецца, можа «набыць» любую песню і любога чалавека, у выкананні Л. Рахленкі выглядае «ласкавым драпежнікам», які прагне хоць на які час далучыцца да сапраўднага, не за грошы дадзенага хараства чалавечай натуры. Такою ён бачыць Тугіну і такою яе... купляе. Супярэчлівасць яркага персанажа «тэатра Астроўскага» абмалявана беларускім артыстам па законах тонкага мастацкага густу, які ставіць вобраз Прыбыткова на мяжу вострага сацыяльнага партрэта, пазбаўленага грубай сацыяльнай вульгарызацыі.

Усёй сваёй дзейнасцю ў калектыве Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы народны артыст СССР Леанід Рахленка заваяваў павагу і прызнанне гледачоў.

Ролі апошніх гадоў сведчаць пра невычэрпныя магчымасці Рахленкі-акцёра, мастака,

Іван ЛІСНЕЎСКІ,
рэжысёр Беларускага радыё.

# КРЫТЫК РАДУЕЦЦА, КРЫТЫК СМУТКУЕ...

Р. Шкраба. «Літаратура і мова».

ён прыгадвае колькі вобразаў, пераўтвораных Купалам у метафары: крыж, што Сымон «стойма трымае пры сабе», торбы, якія шые Марыля, скрыпка, якую праз усю п'есу робіць Данілка.

Толькі ў адным месцы можна было чакаць ад крытыка большай дакладнасці, ці лепш сказаць, большай узгодненасці з усёй канцэпцыяй драмы — там, дзе ён піша пра Марылю: «Гераіня дзейнічае ў п'есе ў згодзе з абставінамі і адпаведна свайму характару». П'еса Купалы вымагае, як мне здаецца, і зусім адметнага тлумачэння такіх паняццяў, як абставіны і характар, а значыць, і паводзіны персанажаў, — героі Купалы паводзяць сябе ўсё-такі «дзіўнавата» і робяць «больш таго», што патрабуюць эмпірычныя абставіны і рэальна зразуметы характар.

Ёсць у Шкрабы адно назіранне, якое найбольш поўна перадае самую сутнасць ужытых Купалам сродкаў тыпізацыі: падзеі ў п'есе «звязваюцца з вялікім святам, дзе рыхтуюцца сілы для помсты, дзе людзі збіраюцца на вялікі сход...» Іменна так: падзеі, што адбываюцца ў адной хаце, у адной сям'і, самым простым і непасрэдным чынам, без пераходных ступенек і звенняў, звязаны з вялікім светам, з агульным законам, ці правільней, з агульнай, універсальнай беззаконнасцю. І стылістыка драмы, увесь яе лад — праваднікі і носьбіты гэтай непасрэднай і вельмі трагічнай залежнасці. Тут не так, як у п'есах Чэхава, дзе «людзі абедаюць, толькі абедаюць, а ў гэты час складваецца іх шчасце і разбіваюцца іх жыцці»; тут людзі сам-насам з разладам, з гібеллю, з катастрофай, у іх цісках і палоне, што налажыла свой выразны адбітак на стылістыку твора, на спосаб канструяваць характары і разгортваць драматычную дзею.

Як гэта ні парадаксальна, але «пераказаць» літаратурны твор найлепш удаецца таму, хто разумее, што зрабіць гэта немагчыма, бо «тым і важны добры твор мастацтва, што асноўны яго змест ва ўсёй паўнаце можа быць выказаны толькі ім» (Талстой). І ўжо зусім камічна выглядаюць бездапаможнасць і глухата, калі яны «разбіраюць» кнігу па «кампанентах».

Рыгор Шкраба іранізуе з аўтараў некаторых даследаванняў, «напісаных паводле такой методыкі, што мімаволі складваецца ўражанне, быццам Купала сам карыстаўся ілюстрацыйнымі прыёмамі: захоча, каб было больш панароднаму — падсыпле сталых эпітэтаў, задумае надаць большай мудрасці сваім вершам—аздобіць яго тэкст прыказкамі і прымаўкамі». І крытык робіць правільны вывад: «Нават там, дзе прыказка ці прымаўка чытаюцца, як кажуць, няўзброеным вокам, іх сэнс прарастае такімі глыбокімі карэннямі ў твор, што нельга вырваць іх адтуль, не пашкодзіўшы самога твора». Іменна **прарастаюць**, як арганічная жывая істота, і ніякія колькасныя падлікі ані нічога растлумачыць нам не могуць.

Зборнік артыкулаў Рыгора Шкрабы, пра які ідзе тут гаворка, называецца «Літаратура і мова». Праблемы літаратурнай мовы, яе выразнасці і багацця цікавяць крытыка найбольш і найперш. Ён пераканаўча даводзіць, што сцёртасць, беднасць, анемічнасць мовы — ад беднасці думкі і фантазіі, ад павярхоўнасці пачуцця і прыблізнасці бачання. І наадварот, там, дзе пісьменнік бачыць прадмет ва ўсёй непаўторнасці, ва ўсёй разнастайнасці яго жывых аб'ёмаў і фарбаў і толькі тады, калі ў пісьменніка ёсць пільная, вынашаная патрэба сказаць нешта важнае і абавязковае **сваё** адносна людзей і свету, толькі там і тады нараджаецца слова важкае, моцнае і жывое.

З мэтай паказаць рэальную сілу ўздзеяння **такога** слова Р. Шкраба шчодра цытуе народныя казкі, Купалу, Коласа, Чорнага, Крапіву, Брыля, Палтаран, Адамчыка, і кожная цытата вытлумачана з шырокім «заходам» на праблему, на агульна-тэарэтычныя прынцыпы, на пытанні, якія датычаць усёй літаратуры.

Бясспрэчным для Шкрабы застаецца адно: добрыя «пісьменнікі ідуць па самай сярэдзіне моўнага мора, пісьменнікі з меншым талентам трымаюцца бліжэй да берагу». Трымаючыся берагу, пішуць вось так: «За час прабывання ў лагеры вучні навучыліся даглядваць расліны, праводзіць механічную апрацоўку зерневых і тэхнічных культур...» Ціхі і сціплы Рыгор Шкраба пачынае злавацца: «Даглядалі расліны — канаплі ці баабабы?.. Што ж, нарэшце, рабілі вучні? Пратручвалі насенне, пасынкавалі тытунь ці палолі кукурузу?»

Нярэдка бывае, гаворыць Шкраба, што «літаральнае разуменне слова... няўменне раскрыць усё багацце метафары, скрытага гумару, сарказму, іроніі» прыводзяць крытыка да грубых і аднабаковых ацэнак твора... У «Песні» Ф. Багушэвіча селянін, калі яго пытаюць: «Чаго ты ўмёр, мужычок», адказвае: «Уцякаў ад «закона». Аўтары хрэстаматыі: «У гэтым пытанні і адказе выражаецца абмежаванасць светапогляду Багушэвіча, які не бачыў выхаду з бяспраўнага становішча працоўнага чалавека». Смехата!.. Не кажучы ўжо аб тым, што літаратуразнаўца не зразумеў іранічнага зместу радкоў, — калі мы ўжо ўвогуле кінем «задавацца» перад вялікімі пакутнікамі за народ і рабіць выгляд, што мы на іх месцы адразу б зламалі рогі любой «абмежаванасці»...

Слухаючы слова, ідучы за словам як за жыццёвай і вобразна-прадметнай рэальнасцю, Шкраба прыходзіць да вывадаў шырэйшага плана і сэнсу. Ён цытуе Бялінскага: «Мастацтва перш за ўсё павінна быць мастацтвам, а потым ужо яно можа быць выяўленнем духу і накірунку грамадства ў пэўную эпоху». Вось гэтыя «перш за ўсё» і «потым ужо» мы часта ігнаруем, мяркуючы, што кніга, напісаная слоўнікам у дзвесце слоў, без стылю, без думкі, без хвалявання і адкрыцця, можа прынесці грамадскую карысць, можа некага выхаваць ці натхніць. Памылка, якую часцей выдаюць за «платформу», людзі з вартым жалю творчым узроўнем! І зноў жа слушна заўважае Р. Шкраба: «Мастацтва паказвае жыццё народа, выхоўвае новага чалавека, служыць нашай ідэйнай зброяй. Калі твор напісаны слаба, то і зброя з яго слабая».

Мне падабаецца тая інтанацыя чалавечай шчырасці, з якой крытык піша пра адну слабую кнігу, якую вельмі хвалілі за «надзённасць праблем і тэмы». Шкрабу гэта кніга не падабаецца... «І нічога я не магу з сабою зрабіць. Я мог бы аб гэтым не гаварыць, прамаўчаць, дыпламатычна абысці гэта далікатнае пытанне. Але я не хачу самому сабе хлусіць». І не трэба. Навошта? Унікаць сумленных поглядаў і ацэнак у літаратуры, значыць прыносіць ёй шкоду, а не карысць.

Рыгор Шкраба напісаў кнігу добрых, разумных і **карысных** для нашай літаратуры артыкулаў пра майстэрства, заклапочанае толькі тым, каб з найбольшай праўдзівасцю перадаць праўду жыцця, праўду савецкага чалавека, яго імкненняў, перажыванняў, спраў.

Р. БЯРОЗКІН.

Леанід ПРОКША

# ПРАЎДА ПАРТЫЗАНА СОТНІКАВА

Чытаючы новую аповесць Васіля Быкава.

«Сотнікаў» — новая аповесць Васіля Быкава аб змаганні ў тыле ворага ў гады гітлераўскай акупацыі. Як і ў папярэдніх творах аб вайне, Быкаў паказвае сваіх герояў у цяжкіх, складаных умовах, калі на вагі кладзецца кроў і сумленне чалавека.

Два партызаны, Сотнікаў і Рыбак, па заснежанай лясной дарозе ідуць на заданне. На Сотнікаве абшарпаны шынель, які слаба грэе, стаптаныя буркі, апушчаная на вушы пілотка. Да таго ж Сотнікаў хворы. Ён не сказаў камандзіру аб гэтым. Сумленне не дазволіла папрасіць паслаць на заданне некага іншага. Зрэшты, якая розніца, мёрзнуць у лесе ці ў дарозе. А там, у дарозе, ёсць надзея недзе трапіць у цёплы куток і сёрбнуць лыжку гарачай стравы.

На Рыбаку—кажушок, добрыя боты, цёплая шапка. Былы старшына, і да таго ж яшчэ вясковы хлопец, больш практычны за былога камандзіра батарэі капітана Сотнікава. Рыбак прыдбаў сабе цёплае адзенне, чаго не змог зрабіць Сотнікаў.

— Што ты, шапкі якой не змог здабыць? Хіба гэта сагрэе? — папракае Сотнікава Рыбак.

— Шапкі ў лесе не растуць, — адказвае Сотнікаў.

— Затое ў вёсцы ў кожнага мужыка шапка.

Сотнікаў адказаў не адразу.

— Што ж, з мужыка здымаць?

— Не абавязкова здымаць, можна і яшчэ як...

Ужо з гэтага дыялогу на пачатку аповесці відаць, як па-рознаму глядзяць на жыццё Сотнікаў і Рыбак.

Сотнікаў у сваіх стаптаных недарэчных бурках, нацягнутай на вушы пілотцы, вонкава зусім не падобны да літаратурнага героя, кранае наша пачуццё. «Што ж, з мужыка здымаць?» Можна дапоўніць гэтую рэпліку: «А за каго я ваюю? Дзеля чаго жыву, змагаюся?» Да апошняй хвіліны жыцця Сотнікаў не можа пагадзіцца з Рыбаком, «гэта пярэчыць усёй яго людской істоце, яго веры, яго маралі». А мараль яго высока-грамадзянская.

Рыбак таксама не з неба зваліўся. Ён вырас у сялянскай сям'і. Ён быў у Чырвонай Арміі, але «як чалавек і грамадзянін не дабраў нечага». Ён адчувае, што Сотнікаў мае рацыю. Яму няёмка: «Не абавязкова здымаць, можна і яшчэ як».

Бацька Сотнікава мужна ваяваў на фронце першай імперыялістычнай вайны, а потым у радах Чырвонай Арміі на франтах грамадзянскай вайны. Сын не зганьбіў афіцэрскай годнасці. Бой артылерыстаў, якімі ён камандаваў, па-быкаўску добра апісаны ў аповесці, сведчанне гэтаму. Сям'я ваеннага, афіцэрская школа, армія падрыхтавала яго да, калі так можна сказаць, франтавога бою з ворагам. Яго мараль не дазваляе яму ісці на нейкую хітрасць, хай сабе яна, можа, і патрэбна. Яму лягчэй аддаць жыццё, чым пакрывіць душой. Можа, людзей такога складу, выхаваных на баявых традыцыях Савецкай Арміі, мае на ўвазе Быкаў, калі піша: «У засваенні вопыту папярэдняй вайны не толькі сіла, але, мабыць, і слабасць арміі». Сіла Сотнікава ў яго глыбокім ідэйным перакананні. А слабасць, калі можна назваць слабасцю, — яго просталінейнасць.

Рыбак інтэлектуальна ніжэй за Сотнікава. Пяць класаў адукацыі, і, відаць, мала прачытаных кніг. Для яго «галоўны сэнс барацьбы заключаецца ў тым, каб, адстойваючы ўласнае жыццё, рабіць шкоду ворагу». Спосаб, якім гэта дасягаецца, можа быць любы. Калі няма ў руках зброі — ёсць хітрасць, падман. Каб абараніць сваё жыццё і прынесці шкоду ворагу, ён здольны пайсці на паніжэнне і ганьбу сваёй годнасці.

Калі Дзёмчыха шчыра і адкрыта, не ўтойваючы сваёй нянавісці да паліцаяў, кідае ім у твар тое, што яна думае, Рыбак, чуючы гэта на гарышчы, думае з прыкрасцю: «Эх, не трэба так. Навошта задзірацца?» А Дзёмчыха робіць так, як бы трымаў сябе і Сотнікаў.

Яна не здольна ні на якія кампрамісы. Яна — сумленне народа. Яна — сіла яго. Дзёмчыха інстынктыўна адчувае праўду, і хай, здаецца, нічога добрага ёй асабіста не нясе адкрытая гаворка з ворагам, яна не можа стрымацца, каб не сказаць праўду разам са сваёй нянавісцю да ворага. Так трымаў сябе пасля арышту і Сотнікаў з паліцаямі. Рыбак з раздражненнем думаў: «Якога чорта ён задзіраецца?»

Праўда, і ў Сотнікава былі ў свой час у некаторай ступені падобныя думкі. Гэта было тады, калі пасля жорсткага бою ён трапіў у палон. Вядуць палонных на расстрэл. Сярод іх і Сотнікаў. Ён чуе, як паранены лейтэнант Савецкай Арміі дамаўляецца зрабіць нешта ў гэтай безнадзейнай сітуацыі, у апошнюю хвіліну адпомсціць ворагу. Рэакцыя Сотнікава: зараз зробіць глупства.

Глупства? А што можна зрабіць у такой сітуацыі? Ісці пакорліва на смерць, як жывёліна на бойню? Або прасіць літасці, парадаваць гэтым ворага і ўмацаваць у ім упэўненасць у перамозе? Аўтар аповесці не пагаджаецца з гэтым і, каб абвергнуць яе, выводзіць пераканаўча вобраз раненага лейтенанта.

Палонны лейтэнант выцягнуў з кішэні невялічкі складаны сцізорык і лязо яго ўбіў у рыжую шыю канваіра. У апошнюю хвіліну сваім жыццём ён даў магчымасць хоць частцы палонных, у тым ліку і Сотнікаву, пазбегнуць расстрэлу.

Абараняючы сваё жыццё, Сотнікаў праяўляе звышчалавечую сілу. Карыстаючыся хвілінай замяшання пасля нападу параненага лейтэнанта на канваіра, Сотнікаў кідаецца бегчы па іржышчы. За ім гоніцца гітлеравец на кані. У гітлераўца ў руцэ парабелум. Крэпасць Сотнікава — складзеныя ў бабкі снапы і каменне. Быкаў па-мастацку апісаў гэты няроўны бой. Толькі вялікая прага да жыцця дапамагла Сотнікаву пасля лютай сутычкі з ворагам схавацца ў гушчары.

У канцы аповесці мы бачым, што Сотнікаў зразумеў, што лепш нешта зрабіць, чым загінуць авечкай.

Такія Сотнікаў і Рыбак. Ім па 26 гадоў. І вось яны з цяжкасцю прабіваюцца да хутара, дзе жыве сувязны партызанскага атрада і дзе яны змогуць адпачыць і раздабыць для атрада правізію. Іх мучыць холад, стомленасць і голад. Асабліва цяжка хвораму Сотнікаву. Рыбаку часта даводзіцца спыняцца, чакаць сябра. Яму і шкада і крыўдна на Сотнікава, бо ён замінае выкананню задання.

Рыбак выцягвае з-за пазухі брудны, як ануча, вафельны ручнік і дае Сотнікаву.

— На, абвяжы шыю, усё ж цяплей будзе.

З вялікай цяжкасцю яны дайшлі да доўгачаканага хутара. Але ад яго засталіся адны галавешкі. Вяртацца нельга з пустымі рукамі. Там, у лесе, чакаюць іх галодныя людзі.

Урэшце ім пашанцавала. Яны трапілі ў хату старасты. Са здраднікам можна не лічыцца і ўзяць, што трэба для атрада. Ні Рыбак, ні Сотнікаў не ведалі, што 68-гадовы Пятро Качан стаў старастам па просьбе сакратара райкома і старшыні райвыканкома. З канспіратыўных прычын ён не сказаў аб гэтым партызанам і цярпліва зносіў іх абразы.

Старасціха, спагадлівая жанчына, сын якой на фронце, частуе партызан гарачай капустай. Рыбак не гідуецца гэтым пачастункам. Сотнікаў, ці таму што хворы і яму не да ежы, ці не хоча браць страву ад здрадніка, адмаўляецца ад падсілку. Потым, калі Рыбак ускінуў на плечы авечку і яны пакінулі двор Пятра, Сотнікаў папракаў Рыбака, чаму не знішчыў здрадніка.

У дарозе партызан перахапілі паліцаі. Адзін Рыбак здолеў бы ўцячы. Ён нават і ўцёк. Але пачуў стралянiну — бой, які вёў Сотнікаў з паліцаямі, кінуў авечку і вярнуўся. Ён дапамог Сотнікаву, які ўжо падрыхтаваўся аддаць апошнюю кулю сабе, але не здацца жывым, выйсці з-пад абстрэлу паліцаяў. І вёў яго, параненага, да самай апошняй хвіліны яго жыцця... да самай шыбеніцы.

Іх узялі паліцаі на гарышчы ў хаце Дзёмчыхі. Узялі ў абставінах, калі хворы і паранены Сотнікаў не мог нічога зрабіць, а Рыбак не мог пачаць бою ў хаце, дзе поўна дзетвары.

Іх забралі траіх: Сотнікава, Рыбака і Дзёмчыху. У турме яны апынуліся разам са «старастам» Пятром Сычом і 13-гадовай дзяўчынкай Басяй. Усіх іх чакала смерць.

І вось тут выяўляецца маральная сіла фізічна разбітага Сотнікава і маральнае падзенне моцнага фізічна Рыбака. Усю дарогу аўтар пакрысе раскрываў і глыбока пранікаў у іх псіхіку. Пара ўрэшце і паказаць: а цяпер паглядзіце, куды вядзе мараль Сотнікава, і куды Рыбака.

Сотнікаў на допыце не сказаў нічога. Перанёс усе катаванні, якія яму чыніў жахлівы вылюдак Будзіла. Стараста адмовіўся ад прапановы даносіць з камеры, аб чым гавораць арыштаваныя. Ён у апошнюю хвіліну ўстрымаў ад здрады Дзёмчыху, якая, хочучы не толькі сябе ратаваць, колькі сваіх пакінутых дзяцей, у адчаі ледзь не выдала жанчыну, якая доўгі час хавала яўрэйскую дзяўчынку.

А Рыбак. Яшчэ седзячы ў развальнях, па дарозе ў турму, ён думаў, як захаваць сваё жыццё. Ён усё зрабіў, што мог. Яго нельга папракнуць ні ў чым. Хіба толькі ў памылках, якія яны зрабілі ў час выканання задання. Але бачыць гэтыя памылкі лягчэй пасля.

На допыце Рыбак адказваў на пытанні следчага. Ён назваў, дзе знаходзіцца атрад партызан, мяркуючы, што, не дачакаўшыся іх, партызаны змянілі дыслакацыю. Там, дзе можна было, схлусіў. Павялічыў колькасць людзей у атрадзе і не выдаў, што ў партызан мала боепрыпасаў і няма нічога есці.

Пасля допыту Рыбак прызнаўся Сотнікаву, што ён не адхіліў прапанову следчага ўступіць у паліцыю.

«— Дарэмна лезеш у дзярмо, ганьбіш армейскі гонар,—сказаў цяжка дыхаючы Сотнікаў».

Рыбак хоча пераканаць Сотнікава, што яму патрэбна «толькі вырвацца з гэтай клеткі і нічога дрэннага ён сабе не дазволіць».

«— Дзівак!—адказвае Сотнікаў.— З кім ты ўздумаў цягацца. Гэта ж машына, або ты будзеш служыць ёй, або яна цябе сатрэ ў парашок.

— Я ім паслужу.

— Толькі пачні».

Сотнікаву цяжка ад думкі, што праз іх гіне Дзёмчыха і Пётр. У апошнюю хвіліну па дарозе на шыбеніцу ён, каб выратаваць іх, прызнаецца, што ён партызан, а іншыя ні ў чым не вінаватыя. Гэта падбадзёрвае Рыбака. Ён тут жа звяртаецца да следчага і дае згоду ісці ў паліцыю. Рыбаку развязваюць рукі. Ён атрымлівае першае даручэнне—давесці параненага Сотнікава да шыбеніцы. Рыбак выконвае загад. Ён дапамагае Сотнікаву ўзняцца на цурбан, на просьбу-прабачэнне Сотнікаў адказвае свайму быламу сябру: «Пайшоў ты к чорту».

І каб выратаваць Рыбака ад самай страшэннай ганьбы, сам здаровай босай нагой адкідвае цурбан.

Адна пятля засталася невыкарыстанай. Рыбака пасля, калі ўсё скончылася, паставілі ў строй паліцаяў. Ён ідзе ў страі чорных бобікаў па вуліцы і бачыць, з якой пагардай і нянавісцю глядзяць на іх жыхары акупіраванага мястэчка, а ззаду на шыбеніцы гойдаюцца яго сябры. Радасць выратавання жыцця знікае. Ганьба душыць, пячэ.

У двары паліцыі, калі далі каманду «перакурыць», Рыбак ідзе ў прыбіральню. Ён выбірае перакладзіну, на якой гатовы павесіцца. Але папружка на штанах, якая б паклала канец яго ганьбе, была знята яшчэ пры арышце. Часу няма прыдумаць нешта іншае. На ганку яго кліча і чакае начальнік паліцыі.

На гэтым канчаецца аповесць. Невядома, ці зможа Рыбак пакачаўшыся ў брудзе, выйсці адтуль чыстым. Ці будзе ён служыць машыне, стане Будзілам, і машына сатрэ яго ў парашок. Аўтар дае дадумаць аб гэтым чытачу.

А думаць ёсць аб чым. Над праблемай, якую ставіць аўтар, паразважаць і варта, і патрэбна. Абыходзіць яе—значыць закрываць вочы на тыя з'явы цяжкага ваеннага часу, якія мы перажылі. Больш таго — аслабляць выхаваўчую ролю мастацкай літаратуры.

Шлях Сотнікава—прамы, гераічны шлях. Гэта шлях мільёнаў, выхаваных нашай партыяй людзей. Дзякуючы такім, як Сотнікаў, мы перамаглі. Перамаглі, але цаной шматлікіх ахвяр. Той, хто закрываў грудзьмі амбразуры, ішоў на таран,—быў сцягам і натхненнем у барацьбе з лютым ворагам.

Вораг быў моцны і хітры. З ім трэба было змагацца і не толькі ў адкрытым баі, дасягаць мэты трэба было любымі сродкамі. Трэба было «і лезці ў дзярмо». Сумленны чалавек Пётр Сыч стаў старастам. А колькі было такіх «старастаў», такіх «паліцаяў»! Праўда, яны атрымлівалі заданні. А колькі было такіх, што рабілі гэта, не атрымаўшы задання! Уступалі ў паліцыю, армію Уласава, нібыта каб ўратаваць жыццё, а пасля, узяўшы зброю ў рукі, помсцілі ворагу, выконвалі свой абавязак перад Радзімай.

Паглядзім на праўду такую, якой яна ёсць, а не на такую, якой бы мы хацелі яе бачыць. Былі людзі, якія, выканаўшы да канца свой абавязак, апошні патрон пакідалі сабе. Хвала ім. Былі людзі, якія, зрабіўшы ўсё, або не мелі таго, апошняга патрона, або ім не хапала сілы скарыстаць яго для сябе,—траплялі ў палон. Сувораў некалі казаў, што гармата, якая падбіла хоць адну гармату, ужо варта таго, што яе зрабілі. Скажам, салдат, які знішчыў хоць аднаго ворага, ужо апраўдаў сваё званне. Можам мы ў чым-небудзь папракнуць такога салдата, які, зрабіўшы ўсё, трапіў у палон? Мне здаецца, не можам, але маем права спытаць, а што ты зрабіў потым?

Мы не ведаем, што зрабіў потым Рыбак. Але тое, што ён зрабіў да гэтага часу, дае падставу яшчэ меркаваць, што ён не стаў Будзілам, зламаў яшчэ нейкі вінцік у страшэннай гітлераўскай ваеннай машыне.

У аповесці ў аднолькавай ступені расказваецца аб Сотнікаве і аб Рыбаку, нават больш аб Рыбаку. І ўсё ж аповесць называецца «Сотнікаў». Сотнікаў—яе галоўны герой. А Рыбак? Здраднікам назваць яго нібы няма падстаў. Героем—таксама. Але ён быў. Ён ішоў побач з Сотнікавым і быў нядрэнным партызанам, але, нават дапускаючы, што ён інакш не мог зрабіць, мы не маем маральнага права ацаніць яго станоўча. Бо тлумачэнне, і нават пераканаўчае, здрадзе заўсёды можна адшукаць. Мужная смерць Сотнікава пакінула глыбокі след у хлопчыка, якому ён падміргнуў з эшафота. Партызан, які папрасіў літасці за кошт здрады, таксама пакінуў след, але ганьбы і агіды да здрады. Гэта адчуў Рыбак і невыпадкова рука яго пацягнулася да папружкі, каб павесіцца.

Мы ўжо мала верым у тое, што Рыбак «вылезе з дзярма». Ён выклікае ў нас расчараванне і агіду. Але былі, на жаль, і такія. Нельга скінуць гэтага з рахунку. Былі, бясспрэчна. І ведаць аб іх трэба, але дзеля таго, каб яны не былі. У гэтым каштоўнасць аповесці. Аб яе героях крытыка яшчэ скажа сваё слова, пакажа на недахопы і пралікі мастацкага плана (яны ў аповесці ёсць), зробіць больш грунтоўны і падрабязны аналіз, на які не прэтэндуюць гэтыя нататкі. Гэта толькі першае ўражанне ад аповесці ў яе часопісным варыянце.

«Сотнікаў»—другая аповесць Васіля Быкава аб партызанах. Думкі чытачоў і крытыкі аб першай аповесці «Круглянскі мост» былі розныя і супярэчлівыя, вострыя, а часам занадта вострыя. Не будзем пакуль вяртацца да гэтага. Галоўнае іншае—ці зрабіў пісьменнік сабе з крытыкі адпаведны вывад? Аповесць «Сотнікаў» дае падставу меркаваць, што зрабіў, і гэта прыемна адчуваць.

Аповесць хвалюе сваёй суровай праўдай, думкамі, якіх нельга пазбыцца і пасля прачытання аповесці. «Сотнікаў»—гэта крок наперад пісьменніка Васіля Быкава ў мастацкім даследаванні мінулай вайны.

---

Васіль Быкаў. «Сотнікаў». Аповесць. «Новый мир», № 5. 1970.

---

**У РЭДАКЦЫЮ ТЫДНЁВІКА «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

*Паважаныя таварышы!*

*Прашу праз Вашу газету горача падзякаваць усім таварышам, якія павіншавалі мяне з 60-годдзем і атрыманнем высокай узнагароды — Ганаровай граматы Вярхоўнага Савета БССР.*

Хаім МАЛЬЦІНСКІ.

Барыс КРЭПАК

# А МОЖА ВАРТА ПРЫГЛЕДЗЕЦЦА?..

КАЖУЦЬ, што Давід Альфара Сікейрас стварыў рэльеф, які паводле яго разлікаў, павінен добра ўспрымацца з аўтамабіля, што імчыць з хуткасцю каля шасцідзесяці кіламетраў у гадзіну...

Можа, гэта і добра. Але чалавек не траціць і, мабыць, ніколі не страціць патрэбу пакідаць хуткі транспарт, каб бачыць свет такім, які ён ёсць,— проста, натуральна, успрымаць не «канспект рэчаіснасці», а яе самую ва ўсёй паўнаце, адчуваць шчасце засяроджанага пранікнення ў прыгажосць.

Не, я не супраць сцвярджэння, што ў кожнай эпохі сваё непаўторнае аблічча, а мастацтва—непасрэдна або ўскосна — выяўляе яго, скарыстоўваючы самыя разнастайныя сродкі. Але калі чую, што наш век— гэта век інтэлектуалізму, складанага асацыятыўнага мыслення, век, які рухаецца—у прамым і пераносным сэнсе слова—на высокіх хуткасцях, а таму, маўляў, мастацтва мусіць неяк дастасоўвацца да гэтых хуткасцей і да ўсяго, што з іх вынікае,—тут ёсць над чым падумаць, перш чым прымаць такія сцвярджэнні за аксіёму. Па-першае, інтэлектуалізм і складанае асацыятыўнае мысленне, натуральна, прыкмета не толькі нашай эпохі. Па-другое, спектр прыкмет самога мастацтва пэўнай (у тым ліку і нашай) эпохі—абавязкова куды шырэй знешне эфектных разумовых схем. Так што на хуткасці нашай эпохі наўрад ці мэтазгодна спасылацца, сцвярджаючы або адмаўляючы тыя ці іншыя асаблівасці сённяшняга мастацтва.

Вось і экспазіцыя напісаных у розныя гады твораў трыццаці трох жывапісцаў, разгорнутая ў выставачнай зале Саюза мастакоў БССР, з усёй відавочнасцю пераконвае: сэнс пошукаў сапраўдных мастакоў, іх перамогі і паражэнні, адкрыцці і «паўтарэнне пройдзенага» залежаць перш за ўсё ад ступені раскрыцця ўнутрана істотнага для сённяшняга чалавека, а не ад знешніх прыкмет стылю, якія часам спрабуюць звязаць з хуткасцямі эпохі.

Возьмем, напрыклад, пейзаж. Ён прадстаўлены шчодра. Вось ужо дзе не схаваеш меру здольнасці мастака гаварыць пра час і пра сябе—тут не спашлешся на хуткасці, тут, сам-насам з прыродай, не прыкрыеш фармальнымі хітрыкамі, адмысловым почыркам адсутнасць жывога пачуцця і думкі. І калі ты натураліст, здольны толькі фіксіраваць знешняе, тое, што можа схапіць вока ці фотааб'ектыў нават на высокіх хуткасцях, — наўрад ці варта выходзіць з такім пейзажам да гледача. У пейзажы патрэбна мастакоўскае абгрунтаванне — чаму ты спыніўся перад тым ці іншым матывам прыроды, чаму прыгледзеўся да яго.

У нашым жывапісе пераважае лірычнае, камернае перажыванне прыроды. У многіх мастакоў пейзажная творчасць зводзіцца да падкрэсленай эцюднасці. Я не супраць камерных матываў і не думаю, што лірычны пейзаж не здольны служыць задачам сучаснасці. Але навошта столькі самаабмежавання ў некаторых пейзажыстаў? Чаму так многа неакрэсленых эмоцый сціпла-шэрай палітры? Хіба сённяшні пейзаж чароўны толькі немудрагелістымі матывамі накшталт берагоў з лодкамі і без лодак, старэнькіх будынін, цэркваў, гародзікаў?..

Справа, зразумела, не ў адных знешніх прыкметах сучаснасці. Можна і праз вельмі немудрагелісты матыў выказаць істотнае, сугучнае пачуццям сучасніка. Здолеў жа В. Цвірко ў пейзажы «Вежа» раскрыць простыя, ясныя адносіны чалавека да прыроды, да роднай зямлі, стварыць вобраз эпічны, глыбока нацыянальны!.

Ды і другія здолелі знайсці для сваіх пейзажаў, як кажуць, «прапіску» не толькі ў «прасторы», але і «ў часе». Спашлюся на «Гарадок у Прыбалтыцы» Л. Дударэнкі, які шукае ў прыродзе канструктыўна-маляўнічую выразнасць прадметаў і сілуэтаў. Непаўторны водар веснавой зямлі ў «Пейзажы» Ул. Мінейкі. Звонкае, чыстае аблічча горада, вымытага дажджом, у рабоце «Пасля дажджу» Л. Асядоўскага. Мяккія маляўнічыя рэфлексы воднай роўнядзі — у «Яхтах» Я. Красоўскага. Трапятлівасць беларускай прыроды — «Красавік. Міншчына» В. Вярсоцкага.

Дарэчы, пра настрой у прыродзе добра сказаў некалі А. Луначарскі: «Гэта тая псіхалагічная музыка, якой павявае ад пейзажа і якую мастак сам уносіць у яго ад паўнаты сваёй лірыкі, свайго перажывання. Тут жывапісец-пейзажыст выступае ў якасці паэта».

Так, сапраўды, вельмі патрэбны нам пейзажысты-паэты! Але, пагадзіцеся, трохі дзіўна, калі ледзь не ўсе паэты прытрымліваюцца толькі лірычнага ладу... І гэта ў той час, калі пейзажаў эпічных, пейзажаў-карцін — скажам шчыра — у нас не надта багата.

А цяпер — пра карціну тэматычную. У апошнія гады, калі нашы мастакі не слізгалі па паверхні з'яў, калі паглыбляліся ў філасофскія нетры тэмы, «забываючыся» на імклівыя хуткасці веку, калі яны нетаропка прыглядаліся да чалавека — свайго героя, тады (і я хачу звярнуць на гэта ўвагу!) пра сутнасць нашай сучаснасці гаварылі карціны не толькі на тэмы сённяшняга дня, але і на гісторыка-рэвалюцыйныя. Прыгадайце, колькі хвалюючых пачуццяў выклікалі ў гледача напісаныя ў апошнія гады палотны М. Савіцкага, В. Грамыкі, Л. Шчэмелева, А. Малішэўскага, М. Данцыга, Я. Зайцава, Л. Асядоўскага, П. Крохалева і многіх іншых.

Гэтая выстаўка сур'ёзна дапаўняе наша ўяўленне пра беларускі жывапіс апошніх гадоў, пра яго знаходкі і страты. Яна пераконвае, што творчыя пошукі нашых жывапісцаў — разнастайныя. Але задумваешся яшчэ і вось над чым: пры багацці і разнастайнасці почыркаў вельмі ж засмучае «падабенства» паміж некаторымі жывапісцамі ў павярхоўным падыходзе да тэмы, у недастатковай завершанасці работы.

Вось, напрыклад, цікавая карціна А. Казлоўскага «Мужнасць»—пра гераізм савецкіх жанчын у гады Вялікай Айчыннай вайны. Цікавая задума прайграе ад недакладнасцей кампазіцыі і недакладнасцей у жывапісе.

І зусім ужо крыўдна за халоднае, бясстраснае палатно І. Белановіча «Вяртанне», якое засталося на стадыі прапіскі. Самай высакароднай задумы недастаткова, калі яна не ўвасоблена ў жывую плоць твора, у яго эмацыянальную тканіну.

Нават такі майстар, як І. Давідовіч, у цікавай карціне «Георгій Скарына» «перачарніў» асобныя мясціны. А ад гэтага спрацілася палітра, якая сапраўды магла б тут быць і больш вытанчанай, і больш светлай, чым цяпер. Думаю што ў выніку пацярпеў эмацыянальны лад твора.

Раскрыць высокую паэзію змагання за ідэі Кастрычніка, сцвердзіць паэтычную сугучнасць нашых сённяшніх здзяйсненняў здзяйсненням нашых бацькоў меў на мэце А. Малішэўскі ў карціне «За зямлю, за волю» — пра байцоў грамадзянскай вайны. Тут жывапіс— эмацыянальны, трывожна-рамантычны. Колеры, як жывыя, вібрыруюць, свецяцца. Але прыглядаешся да карціны ўважлівей — і стыне, аслабляецца пачуццё, якое ўзнікае спачатку. Можа, ад не ва ўсім прадуманай кампазіцыі. Можа, ад няўдалага «зрэзу» першапланавых фігур. Можа, ад паспешлівасці ў жывапіснай і лінейнай абмалёўцы асобных дэталяў, той паспешлівасці, якой мастак пазбегнуў, напрыклад, працуючы над карцінамі «Мы яшчэ вернемся» і «Маці».

Чым вышэй па сваіх вартасцях твор — тым больш доўга можна яго разглядаць; малазместоўная рэч вычэрпваецца роўна за столькі, колькі трэба на тое, каб проста «распазнаць» адлюстраванае. Нешта падобнае адбылося з карцінай «Лета» М. Назарчука — тут не выказана нічога істотнага, не выяўлена душа мастака.

У сапраўдным творы мастацтва — радасць пазнання свету, жывое дыханне творчасці, невідочныя напружаныя ніці ад палатна да жыцця... У свет высакародных пачуццяў сучасніка ўводзяць гледача пейзаж А. Мазалёва «Зіма», «Нацюрморт з чырвонай кветкай» Г. Вашчанкі, «Партрэт мастацтвазнаўцы Ф. Лейтман» І. Ахрэмчыка, «Макі» М. Залознага.

Упершыню ўбачылі гледачы карціну Л. Шчэмелева «Ля саркафага правадыра». Работа, безумоўна, мае супярэчнасці: імкнучыся ахапіць многае, мастак не дабіўся пластычнага адзінства. Дух Кастрычніка, несмяротнасць Леніна і ленінскіх ідэй, непарыўная сувязь Кастрычніцкай рэвалюцыі і нашай сучаснасці.... Не проста перадаць гэта ўсё праз параўнальна нямногае. У карціне прыгожая рытміка ліній, абрысаў. Палатно шмат выйграла б, калі б мастаку ўдалося больш пераканаўча трактаваць аблічча правадыра, больш выразна акрэсліць вядучую думку, вядучае пачуццё.

І яшчэ спынюся на карціне «Горад» І. Басава — мастака з ускладнёным душэўным ладам, якога часта папракаюць за тое, што яго творы даюць падставы для розных тлумачэнняў. Але ці абавязковае адназначнае разуменне твора? І. Басаў адлюстроўвае халодна-лакальныя плоскасці дамоў або шчыльныя кроны дрэў у таямнічых абрысах не дзеля дамоў і дрэў саміх па сабе, а каб выказаць нешта істотнае пра жыццё, у якім яму, мастаку, давялося зведаць нямала трагічнага. Халодны трывожны каларыт, шырокія колерныя плоскасці, адмысловыя пераклічкі колераў — усё гэта прасякнута ў І. Басава драматызмам. Можа, часам і «залішне ўмоўнае» жыццё ў яго пейзажах, але яно — не падманнае. Ускладнёнасць асацыяцый, пачуццяў, фантазіі? Дык што ж у гэтым кепскага? Іншая справа, што В. Басаў не заўсёды дабіваецца кампазіцыйнай цэласнасці, гармоніі. Ды і жывапіснай тэхнікі, бывае, бракуе. Але ў мастака ёсць своеасаблівы талент, якога не здольна замяніць ніякае самае дасканалае валоданне тэхналогіяй жывапісу. У яго ёсць адметны ўнутраны свет, які ён і імкнецца выказаць на сваіх палотнах. Свет, у які не так проста ўвайсці, калі не прасякнуцца жаданнем зразумець мастака. І мы павінны пра яго творы меркаваць, як некалі казаў Бялінскі, паводле тых законаў, паводле якіх яны створаны.

Тое, што мы ўбачылі на выстаўцы, красамоўна сведчыць: беларускі жывапіс набірае сілу, ён справядліва атрымлівае ўсесаюзнае прызнанне. Жыццё душы савецкага чалавека — складанае, змястоўнае, высакароднае. І спасцігнуць гэтае жыццё, думаецца, мала памогуць разважанні пра хуткасці нашага веку, вельмі істотныя для дакладных навук і куды менш істотныя для мастацтва, чым гэта здаецца на першы погляд.



П. КРОХАЛЕЎ. Мае маленькія сябры



Д. АЛЕЙНІК. Вечар.



А. МАЛІШЭЎСКІ. За зямлю, за волю.

калі раней кіно ў хаце старога Салаўя паказвалі, дык неяк і пагамонім і пасмяемся разам. А то, як у тым горадзе: зашыецца кожны ў свой куток і сядзіць. Хіба што назаўтра на нарадзе хто-небудзь абзавецца: цікавую перадачу паказвалі, або — добрая карціна была.

Ідучы дадому, выказаў надзею.

— Мо цяпер у вашай маці будзем збірацца. Усё ж адна. Сумнавата ёй.

●

Стары Арцём па прозвішчы Салавей за сваё жыццё мо разоў сем удавеў. Нешта не шанцавала яму на жонкі. То памрэ каторая, то не ўжывецца з ім.

Па суседстве заўдавела Мар'я — вострая на язык баба. «Вось бы і пабрацца вам», — раяць ёй людзі. «Адкрыю вам сакрэт, мае добрыя, — пытаўся ўжо. Толькі я пайшла на прынцып. Калі сохла па ім, чарнабровым д'ябле — вокам не глянуў. А цяпер, калі вераб'і з рота ляцяць (старога Арцёма ў апошні час мучыла адышка, і ён часта і доўга адхарквaўся), спатрэбілася. А як жа!».

Іронія лёсу — іх магілы побач.

●

Дзіўныя ў сваёй шчырасці і адкрытасці людзі — мае аднавяскоўцы. Хата Васіля Зовала — пажылога, рослага, сутулага дзядзькі, стаіць метраў за сто ад нашай. Неяк сустракае маю маму на вуліцы і гаворыць:

— Ты, Адамаўна, скажы мне, што гэта такое. Вось іду і думаю: сустрэну цябе, і сустрэў. Чаму, скажам, я не мог сустрэць Мікалая Маркавага, ці Фядору — а вось іменна цябе. Або наадварот, іду і думаю: абавязкова зараз убачу Кушнерыка. Так і ёсць.

— Мо гэта, Васіль, у цябе тэлепатыя, — смяецца маці. І дадае: — А мо ты вядзьмар?

— А каб табе хлопцы грошы прысылалі, а каб тваё жыта красавала, а каб ты гора не ведала — ідзе і кляне так.

Ён жа аднойчы прыходзіць да маці і гаворыць сур'ёзна:

— Ты ведаеш, Адамаўна, які сёння дзень у мяне?

— Не.

— Сёння дзень майго нараджэння.

— То і добра, Васіль.

— Але ж ты пачастуй мяне гарэлкай — як ні кажы, а гэта ж маё свята.

І маці лезе ў шафу, дастае тую «божую слязу», што беражэ для сваіх хлопцаў (хутка ж прыедуць!) і налівае Васілю Зовалу — «ведзьмару» і «тэлепату».

●

Ездавы Васіль Бок нешта ўзлаваўся на сваю жонку і прыклаў руку. Ды, відаць, моцна. Тая зняла пабоі — і ў суд. Падала і на развод.

Паўвёскі падпісалася за Васіля: што дапякла яго, што так ён добры — муху не пакрыўдзіць.

Засудзілі Васіля на адзін год.

На расстанне родзічы і суседзі зрабілі вечар.

Ля аўтобуснага прыпынка Васіль усім паціснуў руку, а жонку, моцна абняўшы, пацалаваў.

— Вось жа дурань, — сарамліва адвялі вочы многія. А ён, неяк горка ўсміхнуўшыся, прамовіў:

— Дык я ж люблю яе, халеру.

●

Раней наш сусед Мікалай працаваў брыгадзірам і быў важнай асобай. Аднаго разу, напіўшыся, вяртаўся ён на лодцы з мястэчка і пасварыўся з настаўнікам Васілём Пракопавічам, які таксама ехаў на лодцы дамоў. У пагрозлівай лаянцы Мікалай пасаўкнуўся і бултыхнуў у ваду.

— Шкада, — крычыць, — што я ўтапіўся, а то ты б у мяне ведаў. — І выпусціў з рук вясло.

Настаўнік тады ледзьве выратаваў яго.

— Ну і душа ў цябе, чалавеча, «чудзесная», — гаворыць дзядзька Васілю Пракопавічу, калі вып'е і сустрэне яго на вуліцы. А больш так:

— Калі б я быў дабро, адразу пайшоў бы на дно, на паверхчі, вядома ж, што трымаецца.

Знішчальная самакрытыка!



Малюнкі В. ТАРАСАВА.

---

БЕЛАРУСКАЕ тэлебачанне нядаўна запрасіла сваіх гледачоў на прэм'еру фільма-спектакля «Збянтэжаны Саўка». Гэта — тэлевізійная інтэрпрэтацыя «жарта ў адной дзеі», як вызначыў жанр свайго твора Л. Родзевіч. У галоўных ролях выступілі цудоўныя артысты — Павел Малчанаў і Галіна Макарава. Сустрэча талентаў!

Але перш чым пачаць размову аб новай рабоце студыі тэлебачання, хочацца зрабіць адно адступленне, і не лірычнае, а гістарычнае, ці дакладней—літаратуразнаўчае. Бадай, няма ў нас на Беларусі чалавека, які б не ведаў вадэвіля «Збянтэжаны Саўка». Няхітрая гісторыя пра тое, як тыст,—характар глыбока нацыянальны, падгледжаны ў самім жыцці. З такімі трошкі нехлямяжымі, вясёлымі і дасціпнымі дзядзькамі сустракаемся мы на старонках твораў Коласа і Чорнага, Бядулі і Дуніна-Марцінкевіча, Купалы і Галубка...

З першых жа кадраў, з першага з'яўлення мы пранікаемся цёплай, трошкі іранічнай сімпатыяй да героя Малчанава, да яго цяжкаватай постаці, якая ёмка пагойдваецца ў такт бегу даволі-такі рабрыстай, няўкормленай кабылы, да яго дабрадушнага твару з невялічкімі хітраватымі вочкамі пад бялёсымі павейкамі і даўно нявголенай шчэццю на шчоках. Не, Саўка чалавек незласлівы, а лаянка, мужык гаспадарлівы, свайго з рук выпусціць не любіць. Гэта відаць па тым, з якой рашучасцю бароніць ён сала ад захадаў жабрака, як бурна шкадуе раструшчаны гладыш, ды і самая вялікая Саўкава ганьба — сядзенне на яйках, вынік гэтага карэннага, моцнага, мужычага. Такі цікавы, поўны выразных, яркіх фарбаў партрэт намаляваў буйны майстар менш як за паўгадзіны экраннага часу.

Вартым партнёрам Паўла Малчанава выступае Галіна Макарава. Яе Магрэта—жанчына баявая, спрытная на язык і добрая душой. Яна любіць свайго шумлівага чалавека і шкадуе яго, а на сядзіць пад кустом і каштуе крадзенае сала. Нашто спатрэбілася гэтая сцэна? Каб растлумачыць, што Магрэта адабрала ў злодзея свой набытак? А ці не лепш гэта зроблена ў аўтара, калі ў фінале Магрэта тлумачыць Саўку, як сала зноў трапіла дадому. Наогул Л. Родзевіч упарта супраціўляецца ўсякім дапіскам і дапаўненням. Зусім не патрэбен на наш погляд, дапісаны сцэнарыстам глухі дзед. Ён з'яўляецца, бадай, для таго, каб «разбавіць» маналог Саўкі, але маналог астаецца маналогам, і з'яўленне антуражнага персанажа толькі адцягвае ўвагу гледача ад сэнсу падзеі. Такая ўжо прырода добрай драматургіі. П'еса Родзевіча напісана ў

НА БЛАКІТНЫМ ЭКРАНЕ

# І САЎКА МАЕ ГОЛАС

**Прэм'ера фільма-спектакля**



П. Малчанаў у ролі Саўкі.

Саўка пакаштаваў горкага жаночага хлеба, пагаспадарыў у хаце некалькі гадзін, а потым здаў свае пазіцыі грознага, незадаволенага ўсім мужа, напісана Л. Родзевічам весела, дасціпна. Ужо не адзін дзесятак гадоў ідзе гэты вадэвіль на самадзейнай сцэне, а спектакль пастаўлены на радыё паўтараецца па просьбе слухачоў таксама вельмі часта. Праўда, не ўсе ведаюць, што Л. Родзевіч, аўтар вадэвіля — прафесіянальны рэвалюцыянер, адзін з кіраўнікоў кампартыі Заходняй Беларусі, вядомы ў партыйных колах пад прозвішчам А. Сталевіч.

Работа падпольшчыка-камуніста, безумоўна, амаль не пакідала часу на літаратурную дзейнасць. Напісаў Родзевіч не так ужо і многа. Творы яго ў асноўным рассыпаны па нелегальных выданнях і падпісаны па зусім зразумелых прычынах рознымі псеўданімамі. Не ўсё раўнацэнна ў спадчыне Родзевіча, але тое, што некаторыя яго вершы сталі народнымі песнямі, а папулярнасць «Збянтэжанага Саўкі» не слабне з гадамі, гаворыць за тое, што творчасць гэтага пісьменніка цікавая і для выканаўцаў, і для даследчыкаў літаратуры.

А тое, што папулярнасць «Збянтэжанага Саўкі» надзвычай шырокая, сведчыць паток пісьмаў на тэлебачанне. Студыя тэлебачання зрабіла добрую справу—ушанавала памяць пісьменніка-камуніста Л. Родзевіча, і дала магчымасць тысячам людзей убачыць на экранах сваіх тэлевізараў любімы твор у выкананні майстроў беларускай сцэны.

Малчанаў у ролі Саўкі — з'ява адметная і ў агульнай плыні тэлеработ нашых беларускіх артыстаў (тэма, дарэчы, цікавая для асобай гаворкі, бо на блакітным экране многія нашы артысты стварылі вобразы значныя, раскрываючы нечаканыя грані свайго даравання), і ў творчай біяграфіі самога мастака.

Саўка, якім яго малюе арякая па ахапку сыплецца з рота адразу ж, як ён убачыў жонку, гэта—для блізіру. Бо так было спрадвеку, што чалавек лаяў сваю бабу, іначай і быць не можа, а то не толькі людзі, а і цюцька на двары засмяе такога гаспадара. Пагрозлівыя тырады проста акт самаабароны, бо Саўка трошкі пабойваецца сваёй мажной жонкі ды і моцна любіць яе. Іменна любіць. Па аўтары Саўка ацаніў жонку ў выніку «цяжкіх» выпрабаванняў, якія і складаюць асноўу сюжэта вадэвіля. Пачынаецца ж дзея з рэзка антаганістычных адносін гэтай пары. Так у аўтара. Малчанаў жа паказаў нам Саўку, які ў выніку падзей толькі **больш** ацаніў, **больш** палюбіў сваю Магрэту. Вось чаму ласкавыя ноткі прарываюцца ў гняўлівым маналогу аб нязносным нораве непакорлівай жонкі. І словы аб тым, што «мабыць на цэлым свеце няма такой бабы, як мая Магрэта,— днём з агнём шукай — не знойдзеш ні сярод жывых, ні сярод памершых, да раны яе прылажы, дык рана загоіцца», гучаць як лірычнае прызнанне. Саўка ж зараз сам-насам і няма перад кім губляць «прэстыж», ды і ў такіх абставінах не да прэстыжу. Але апошняе—прычына другарадная.

Майстар, які дакладна і тонка адчувае прыроду народнага гумару, Малчанаў з сапраўдным бляскам праводзіць цэнтральныя, ударныя сцэны вадэвіля. Дарагога варты, напрыклад, кароткія кадры, дзе разгублены, збянтэжаны Саўка пад'ядае са стала хлебныя крошкі, і, пераконваючы сябе ў тым, што «збоку гледзячы, дык можна падумаць, што з голаду крошкі падбіраю, а я проста так, як добры гаспадар, каб не марнавалася», або сцэна выседжвання яек. Тут кожны рух, кожная інтанацыя дакладна выверана. Тонкае пачуццё меры памагае артысту іграць даволі-такі рызыкоўную сітуацыю свабодна, натуральна і пасапраўднаму смешна.

Саўка Малчанава — прадукт свайго часу, свайго сацыяльнага асяроддзя. Ён экзекуцыю пайшла толькі дзеля яго ж карысці. Якую маляўнічую гаму пачуццяў іграе актрыса ў сцэне, калі, вярнуўшыся з поля, Магрэта застае Саўку ў жаночай вопратцы на кошыку з яйкамі! Тут і жах, што Саўка звар'яцеў, і шкадаванне, і раскаянне і вялікая радасць, калі высвятляецца, што ўсё абышлося добра. Роляў, падобных Магрэце, на акцёрскім вяку Макаравай давялося сыграць шмат, яны як кажуць, «кладуцца» на яе акцёрскую індывідуальнасць. Гэта правільна. Але ці не занадта часта эксплуатуюць толькі гэтую грань таленту актрысы? Пагроза штампу адчуваецца і ў гэтай рабоце: знаёмыя рухі, чутыя інтанацыі. Думаецца, што настала пара даручыць Г. Макаравай ролю зусім нязвыклую, нечаканую, процілеглую таму, да чаго мы прывыклі ўжо.

Зусім на кароткі час паяўляецца ў кадры артыст С. Міліцын. Наогул, цікава сачыць за працай гэтага артыста на тэлеэкране. Амаль заўсёды (калі не лічыць вялікай ролі ў «Ткачах» па Гаўптмане) ён з'яўляецца ў эпізадычных ролях, але запамінаецца надоўга. Так і ў гэтым фільме.

...Амаль на ўвесь экран худы, змучаны твар, благасная міна, салодкі голас. Але вось ён зразумеў, што на двары нікога няма, што тут можна тым-сім пажывіцца. І расплюшчваюцца «сляпыя» вочы, цяпер яны хцівыя, хітрыя, злосныя. Борздзенька кульгае ён да сала, што «дрэнна ляжыць». Два-тры штрыхі—і партрэт гатовы.

У Л. Родзевіча для жабрака напісана адна сцэна, і гэтую сцэну, паўтараю, Міліцын іграе дакладна і цікава. Але рэжысёр Ю. Сурыкаў пашырае рамкі дзеяння гэтага персанажа і... ставіць яго ў абставіны ненатуральныя, бяздзейныя. Праз даволі вялікі прамежак часу мы зноў бачым жабрака, які традыцыі народнага лубка. А жанр, як вядома, вымагае і адпаведнай формы вырашэння, адпаведнага рэжысёрскага ключа.

Аўтар прапануе нам умовы гульні—адкрыта гратэскавыя, неверагодныя, нават парадаксальныя сітуацыі, і таму ўпартае імкненне рэжысёра перавесці гратэск у план бытавой камедыі помсціць за сябе. Празмерная ўвага да другарадных дэталей запавольвае рытм, жаданне, каб усё было «дакладна па жыцці» робіць зусім не смешнымі ярка выпісаныя аўтарам сцэны, калі Саўка завіхаецца ў хаце, а потым ганяецца за курыцай, якая легкадумна пакінула свой пост на кошыку з яйкамі.

Па той самай прычыне здаецца неарганічнай у спектаклі фінальная сцэна, дзе Саўка і Магрэта спяваюць куплеты. Без яе проста немагчыма было б абысціся, каб рэжысёр прыняў тыя ўмовы відовішча, якія прапанаваў яму аўтар. Можа таму і камера А. Бычкоўскага часта бывае не вельмі выразнай, матэрыял жа дае вялікія магчымасці для фантазіі аператара.

...Прэм'ера адбылася. Ёсць у гэтай рабоце, як і ў кожнай значнай рабоце, і здабыткі і страты. Радасна, што перамог больш. Радасна і тое, што літаратурна-драматычная рэдакцыя тэлебачання з добрай увагай ставіцца да цікавай спадчыны, якую пакінулі нам таленавітыя майстры беларускай камедыяграфіі. Будзем спадзявацца, што на блакітных экранах ажывуць вадэвілі Дуніна-Марцінкевіча, Каганца, Галубка і іншых. І зноў пойдуць па адрасе: Мінск, Камуністычная, 6—удзячныя пісьмы ад гледачоў з усіх куткоў Беларусі.

Тамара АБАКУМОЎСКАЯ.

**ЛІТАРАТУРНАЕ аб'яднанне пры газеце... Гэта стала ўжо звыклым, амаль будзённым. А тым часам з яе, газеты, як з гасціннай страхі, адчуўшы моц сваіх крылаў, выпраўляецца ў літаратурны вырай маладая змена.**

**Сёння (і мяркуем надалей рабіць гэта) мы змяшчаем на старонках тыднёвіка некаторыя творы членаў аб'яднання пры газеце «Мінская праўда».**

**Высокага ўзлёту вам, сябры!**

Антон КРЫВІЦКІ

●

Як грэбень пеўня —
паўстае зара.
Нізіны цэдзяць тумаНоў настой.
Пайду у царства летніх спелых
траў, —
І запяе каса мая струной.
Лаўлю я луга сцішаныя гукі,
Што ні адною нотай не грашаць.
Травой прапахнуць, сонцам мае
рукі
І дабрынёй напоўніцца душа.
Я скарбам гэтым мушу
ганарыцца,
Як летапісец памяццю сваёй.
...Ўзніму касу, нібы ўзніму
дзянніцу,
А ранак спее сонцам,
чысцінёй.

Леў МАРОЗ

# МАЦІ ПАЛІЦЬ У ПЕЧЫ

Вядром на кухні раптам
прагрукоча,
То вілкамі па чыгунах шкрабне...
Ды не ад ляску адкрываю вочы—
Ад асалоды, што прыйшла ка мне.

Малым раблюся ў бацькоўскай
хаце,
Хоць трыццаць з хвосцікам ужо
мне ёсць.
Мне, як малому, дагаджае маці:
Каб выспаўся, каб добра еў
сын-госць.

Вось і цяпер не кліча на падмогу,
Хаця вады ў вядры ўжо нестае.
Што, сын шчэ спіць? Няхай!
І дзякуй богу.
Ну, колькі трэба ёй вады тае!

І соладка ад матчынай турботы,
Ад гэтай старадаўняй пекнаты...
Ды час бяжыць, бяжыць, і без
ахвоты
Ізноў становішся дарослым ты.

Ніна ГАЛІНОЎСКАЯ

# ЛІСА І ЗАЯЦ

— Што майструеш, шарачок?
— Я з кары раблю бачок.
— А чаму агонь гарыць?
— Буду фарбу я варыць.
— Фарбу? Значыць, ты мастак.
Намалюй партрэт, шарак.
— Не малюю я партрэты.
Не мастак я, Лісавета.
Хутка будзе ўжо зіма.
Футра белага няма.
Пабялю сваё ў рамонках,
Прасушу яго ў сасонках
І на белым снезе ўзімку,
Буду я, як невідзімка.

# ВОСЕНЬ

Неба цёмнае і злое.
Пэўна, сонца выхадное.
Дзе ж яно адпачывае,
Можа, ў лесе дзе гуляе?
Можа, збілася з дарогі
І чакае дапамогі?
Крыкні, сонейка, а-а-у-у! —
Я табе дапамагу.

Алесь РАМАНЕНКА




АПАВЯДАННЕ

ДАЎНО я не быў на мурожных лугах маленства. Не чуў, як пад раніцу покаюць у садах першыя вінныя яблыкі, як уздрыгвае ад іх зямля: не бачыў, як над хатаю і садам выспявае маладзік, як праЗубліваюцца ў сутонлівай смузе далёкія вячэрнія зоры... Калі хваля ўспамінаў захліствае мяне, у думках я вяртаюся ў сваё маленства. Блакіт росных, зіхотных ранкаў, высокае чыстае неба, вёска Палядкі на хат сорак і вуліца, — шумлівая, неўтаймаваная ранкамі, з бясконца разлітай, маладой песняй, якая шырока кацілася на разлегласць палеткаў, аціхала, заблытвалася ў павуціннасіняй смузе прасторы. І чамусьці заўсёды згадваецца Ганна, з тужлівай, няўціхнай песняй, з адзіным увечары раскацістым голасам.

Помніцца: быў малы.

І такіх нас было шмат у вёсцы, як і тых высаджаных каля кожнай хаты пышных, зелянковых бяроз з салодкім—не адарвацца — мядовым сокам. Бярозы хутка шуганулі ўгару, акрылілі шумлівым веццем стрэхі, — і вёска здалёку нагадвала зялёны востраў. Дык вось, пад навіссю гэтай бярозавай зелені, аж пад самы Кібірскі лес, на той канец вёскі ў свае стрыечнай сястры Агапы жыла яна, Ганна — увішная і вясёлая ў маладосці дзяўчына. Сястра яе неўзабаве выйшла замуж, абкідалася, абсыпалася дзецьмі — і ні ў людзі, ні за людзі... Затое Ганна не ведала вольнай часіны. Пеклавалася ўвесь дзень. А вечарам, калі сунімецца, аціхае вецер і на вясковых дарогах ападае падняты коламі пыл, яна птушкай ляцела да свае любай сяброўкі Паракінай Ліды. Прыхарошвалася перад невялікім, купленым Лідаю ў мястэчку, люстэркам з адным неўтаймаваным жаданнем: пайсці, пабегчы на танцы аж за тры кіламетры ў вёску Горкі. Там уцеха!.. Там надзея, радасць!.. Хтосьці падыдзе і яе, як самую гаманкую, вясёлую, запросіць на ціхі і павольны вальс або на імклівую — не зглядзець — увішную польку. Закахаецца ў яе, палядкоўскую прыгажуню. Будзе праводзіць вёскаю, абуджаную петушынымі галасамі. А потым будзе песня. Шчаслівая, нястрымная пад бляклымі зорамі раніцы!.. От, дзе яна, дзявочая радасць і захапленне!..

Наша хата стаяла побач з Паракінай, і я часта лётаў туды, бо ў мяне быў самы найлепшы і блізкі сябар, смелы, адважны Андрэйка. Мы часта цікавалі, як дзяўчаты хораша прыбіраліся перад тымі невядомымі нам танцамі, на якія таксама карцела нам злётаць. Але дзяўчаты нас не пускалі і пацяшаліся:

— Жаніхі!.. Зачакаліся іх нявесты!

Андрэйка бычыўся і рашуча заяўляў:

— Не пусціце — самі прыбяжым!

— Я табе прыбягу!—ківала на яго пальцам Ліда.—Толькі ўздумай. Танцор!.. Успееш яшчэ!..

Можа і праўду тады яны гварылі, што ўспеем яшчэ, але мы не суніміліся, і вечарамі, хаваючыся за кустамі калючага агрэсту, з вялікай зайздрасцю праводзілі дзяўчат вачыма. Як нам хацелася тады патрапіць на гэтыя танцы!.. А дзяўчаты, як бы нам на злосць, кацілі полем бясконца вясёлыя, імпэтныя песні. А то часта ўначы, ледзь не пад самы світальны, з яшчэ зярністымі зорамі ранак, я чуў праз сон іх прыхопленыя хрыпам і зморай запозненыя галасы. А назаўтра, не спазніўшыся, заўсёды шустрыя і дзябёлыя, як усё роўна не было тых заліхвацкіх да самай раніцы танцаў, яны ў гурбе з дзяўчатамі беглі на поле...

Але вось адзін выпадак глыбока запаў у маю дзіцячую памяць...

Надыходзіла пара, калі ад лагоднае цеплыні падсыхаў на агародзе леташні бульбоўнік. Мы, малыя, скідвалі яго віламі ў кучу і палілі. Пахла дымам, смажанай, перамерзлай бульбаю, пахла вясною... Сонца перад супынам, каб схавацца за ўзгорак, цікаўна глядзелася на востраў нашай зялёнай вёскі і песціла нас сваімі халаднаватымі, але лагоднымі промнямі. І вось у гэтую пару я ўпершыню глыбока, па-асабліваму ўчуў Ганнін голас. Яна вярталася з поля і спявала тады яшчэ новую, мала каму вядомую, з трошкі прытоеным смуткам, але раздольную і шырокую, як само мора, матроскую песню:

«Прощай, любимый город!..»

# «НЕ ХАДЗІЦЕ, ДЗЕЦІ, У АФРЫКУ ГУЛЯЦЬ...»

**□ БЕГЕМОТ У ІРЖАВАЙ СКРЫНІ. □ АСЦЯРОЖНА, ДЗЕЦІ! □ ДА ЖЫВЁЛЫ — НЕ ПА-ЛЮДСКУ. □ ТОЛЬКІ ДЛЯ ДАХОДУ. □ А МІНЧАНЕ ЧАКАЮЦЬ...**

«Па вуліцы слана вадзілі...» Няўжо вандроўныя, або як іх цяпер называюць перасоўныя звярынцы маюць такую даўнюю гісторыю? Л. Фралова, намеснік дырэктара звярынца, які цяпер у Мінску, прымае жарт: «Мо і так». А пасля ўжо сур'ёзна гаворыць, што звярынец — вельмі карысная рэч. Хаця б, як дапаможнік для школьнікаў. Скажам, раней Юра, Пеця бачылі слана ці бегемота толькі намаляванага, ведалі пра іх з расказаў настаўніцы, а зараз, калі ласка, прыходзь і глядзі, які гэты бегемот жывы...

Праз аконца канторы бачу, як чародка школьнікаў з засяроджанымі тварамі рухаецца ўздоўж клетак. Вось яны падышлі да вальера, дзе ў іржавай жалезнай скрыні, напоўненай цвілай вадой, відна чорная спіна бегемота. Як па камандзе дзеці заціскаюць насы...

Скажам адразу, нічога, акрамя прыкрасці, цяжкага асадку на сэрцы пасля наведвання гэтага звярынца не застаецца. Усё тут, пачынаючы ад традыцыйнай глухой агароджы, аздобленай экзатычнымі «карцінкамі» з жыцця звяроў — плёнам фантазіі не вельмі дасведчанага ў геаграфіі і заалогіі маляра — і канчаючы абшарпанымі, выцвілымі тлумачальнымі шыльдачкамі на іржавых, брудных клетках, у якіх марнуюцца звяры, выклікае ўнутраны пратэст.

Тут усё ад старога балагана, дзе галоўны клопат быў — заманіць публіку. А там як выйдзе...

Нас не можа не турбаваць гэта, бо галоўным «спажыўцом» у дадзеным выпадку з'яўляюцца дзеці — народ вельмі ўражлівы, народ, які тонка ўсё адчувае і хутка пераймае як добрае, так і, на жаль, дрэннае.

Не ведаю, ці пачэрпнуць школьнікі якія-небудзь веды з гэтага «жывога падручніка» (у звярынцы няма экскурсавода, усе звесткі — на шыльдачцы, якая паведамляе, што, скажам, белы мядзведзь жыве на поўначы), але што тут яны не навучацца беражліва, ласкава, спагадліва ставіцца да жывой прыроды — ясна.

На вачах публікі, а гэта, паўтараю, у асноўным дзеці, звяроў б'юць, на іх крычаць. Калі мы гутарылі з намеснікам дырэктара, яна, зірнуўшы ў акно, раптам ускочыла і закрычала: «Ах, нягоднік, я яму... зноў б'е дзікабраза. Днямі да крыві збіў, а цяпер зноў...» Я зірнуў у акно — нейкі чалавек, акружаны дзятвой, заўзята шураваў кіем у клетцы, у якой мітусіліся два звяркі.

— Гэта супрацоўнік звярынца?

— А то ж. П'яны, — каменціравала Л. Фралова, дадаўшы некалькі сакавітых эпітэтаў.

Я пацікавіўся, што за людзі працуюць у звярынцы? Лідзія Яўгенаўна махнула рукой:

— Каго адусюль выгналі, да нас ідзе. Абібокі, п'яніцы. Вунь зарплату выдавалі тры дні назад, а і сёння яшчэ не прасохлі. Звольніш, дык цябе лаюць, чаму цякучка кадраў...

Намеснік дырэктара не перабольшвала. Па тэрыторыі звярынца сапраўды бадзяліся падазроныя з выгляду асобы з апухлымі тварамі, у брудным пакамячаным адзенні. Спачатку я думаў, што яны сюды заблудзілі з вуліцы — побач Камароўскі рынак— аказалася — служыцелі звярынца. Бедныя звяры.

У некаторых краінах існуюць таварыствы аховы жывёлы. Чамусьці ў нас пра іх пішуць з ironіяй. Дарэмна. Такое таварыства — а яно мае пэўныя правы і паўнамоцтвы — мабыць, хутка б спыніла такі здзек з жывёлы.

Зноў паўтараю, звярынец, як кожнае відовішча, нясе пэўны выхаваўчы зарад. І я не ўпэўнены, што хлапчанё, вярнуўшыся дадому, не пачне лупцаваць сабаку, што дагэтуль аціраўся ў двары, або не разбурыць птушынае гняздо.

Гэта ўсё не так бяскрыўдна, як здаецца ў першы момант. Жорсткасць, яна вельмі хутка прыліпае. Не заўважыш, як стане рысай характару.

Не ўцярплю, нагадаю адну жудасную гісторыю. Два гады назад мне давялося пісаць пра забойства групай падлеткаў таксіста. Я пазнаёміўся з сем'ямі, дзе жылі і выхоўваліся забойцы, з іх суседзямі, аднакласнікамі. Пра завадатара злачынцаў — Каранеўскага, які спакойна стрэліў вадзіцелю ў галаву, расказвалі, што ён наводзіў жах на ўсю вуліцу сваімі экзекуцыямі над кошкамі. Зловіць кошку і тут жа на вачах ва ўсіх душыць вяровачнай пятлёй.

Выпадак, вядома, выключны. Але не настолькі, каб яго зусім выкінуць з памяці. Я не веру, што з дзіцяці, якое здзекуецца з жывёлы, вырасце харошы, гуманны чалавек.

Але вернемся зноў у злашчасны звярынец. Бяда яшчэ і ў тым, што ён не выключэнне з правіла. Тое ж самае, ці амаль тое самае было і ў тых перасоўных звярынцах, што прыязджалі ў Мінск і іншыя гарады рэспублікі раней. Такіх звярынцаў, або як іх гучна называюць у дакументах — «заалагічных цыркаў» у краіне трынаццаць. Яны вандруюць з горада ў горад па складзеных Галоўным упраўленнем цыркаў маршрутах. «Наш», напрыклад, зімаваў у Фрунзе, а ў Мінск перабраўся з Віцебска.

Не ведаю, якая была пачатковая задума, мо гэтыя звярынцы арганізоўваліся і з самымі добрымі намерамі, але факт, што цяпер яны ператварыліся проста ў сродак выкачкі грошай. Уваходны білет — 40 капеек для дарослага, 20 — для дзіцяці — даражэйшы, чым у стацыянарных заапарках. Невыпадкова Л. Фралова пахвалілася, што іх звярынец летась даў 230 тысяч рублёў чыстага даходу.

Можа скласціся ўражанне, што аўтар нататкаў наогул супраць звярынцаў. Не, ён супраць халтурных звярынцаў. У гэтай сувязі хочацца нагадаць пра пытанне, якое «Літаратура і мастацтва» ўзнімала два гады назад — настаў час мець у Мінску свой стацыянарны заапарк. Мінск амаль адзіная сталіца саюзнай рэспублікі, дзе такога заапарка няма.

У двух словах гісторыя пытання такая: 30 чэрвеня 1966 года рашэннем Мінскага гарвыканкома была прынята пастанова за № 157 аб будаўніцтве заапарка. Праз год планавае заданне разам з заказам на падрыхтоўку праектна-каштарыснай да-

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ

Савось АВОСЬ

## ДЗЕ ПЕГАС ПАСЕЦЦА?

**Рэпартаж з Алімпа спецыяльна для «ЛіМа».**

### ХІБА Ж ДРЭМЛЮЦЬ КАНСУЛЬТАНТЫ?

**(Праца—не гульня ў фанты)**

*Пенсіённыя дзяды*
*Успамінаў шлюць пуды.*
*Хай пуды —*
*Такой бяды!*
*Шлюць дзяды*
*Гады — й — рады.*
*Прачытаўшы два абзацы,*
*Можна ўмомант развязацца.*
*«Не сіроцьце чалавецтва —*
*Адашліце ў выдавецтва!»*
*Адказаць зайжды не позна.*
*Там, дзе прозна,*
*Не завозна.*

*Трэба пільны інтарэс*
*Праявіць да паэтэс!*

*Драматургаў тут не лаюць —*
*У тэатры адсылаюць.*

*Пішаш пра дзяцей, пра школкі, —*
*Ёсць «Бярозкі»,*
*Ёсць «Вясёлкі»!*

*Праўда, клопаты,*
*Калі*
*Юбілей Махтум-Кулі*
*Ці Прыходзьку — пяцьдзесят*
*(Рад ацэнку ўчуць сабрат!).*

*Думаюць,*
*Не спяць у шапку.*
*Пішуць тэкст,*
*Кладуць у папку.*

*Кансультанты не лютуюць.*
*Кансультанты кансультуюць.*

*Аўтар малады,*
*Ды ранні,*
*Сам*
*Рэдакцыі тараніць!*

**Працяг. Пачатак у мінулым нумары.**




У ПЕРАПЫНКУ на семінары пачынаючых літаратараў ён падышоў да мяне і па-сяброўску спытаў:

— Ты не «хварэеш» футболам?

— Ды як табе сказаць. Каб занадта...

— Ну і добра, — рашыў ён. — Вось табе рубель і дваццаць капеек, вазьмі мне білецік на стадыён.

— Але ж ты таксама можаш купіць.

— Для сябе — так, але ў мяне, разумееш, дзяўчына... А даюць толькі адзін.

— Ну, добра, — згадзіўся я.

У мяне не было дзяўчыны, дык чаму б хлапца не выручыць. Праўда, да гэтага я яго ўжо выручыў аднойчы. З-за гэтай самай дзяўчыны ён у першы дзень семінара пачынаючых выдаткаваў усе камандзіровачныя. Папрасіў заплаціць за яго ў сталоўцы за абед і ў дадатак пазычыў яшчэ пару рублёў на вячэру і кіно з той самай дзяўчынай.

У сем гадзін вечара ўсе балельшчыкі пайшлі на стадыён. У горадзе рабілася нешта неверагоднае. Трамваі, аўтобусы, метро былі забіты балельшчыкамі. На кожным кроку пыталіся:

— У вас няма лішняга?..

Мне было прыемна, што я ў такую цяжкую хвіліну выручыў хлопца. Недзе цяпер ён ужо сядзіць на стадыёне з дзяўчынай, і яму не трэба бегаць і пытаць: «У вас няма лішняга?..»

Я пагуляў з гадзіну па горадзе. Вечар быў цудоўны. Надыхаўся свежым паветрам, захацелася есці.

Заходжу ў рэстаран. І што бачу: за столікам сядзіць мой прыяцель-пачынаючы з дзяўчынай. На стале выпіўка, закусь.

Адно крэсла ля стала не занятае. Падыходжу.

— Ты не на футболе?

Пачынаючы цісне мне чаравікам нагу і міргае — маўляў, маўчы.

Маўчу. Сядаю. Бачу, мой прыяцель-пачынаючы збянтэжаны

— Пазнаёмся, Ліля. Дзядзька яе працуе ў буйным часопісе, — знаёміць ён мяне з дзяўчынай і дадае, кіўнуўшы ў мой бок. — Таксама пісьменнік...

Я хацеў запярэчыць, — які я там пісьменнік, змясціў пару апавяданняў у раённай газеце! Але ў гэты момант адчуў на сваёй назе нагу прыяцеля-пачынаючага.

На шчасце майго сябра зайграла музыка. Да стала падышоў хлопец.

— Дазвольце? — запрасіў ён Лілю.

Ліля глянула на майго сябра-пачынаючага. Той важна кіўнуў:

— Бадай, патанцуй. Мы пагаворым аб пісьменніцкіх справах.

Як толькі адкрытыя плечы Лілі паплылі ад стала, мой сябар-пачынаючы, заікаючыся, папрасіў мяне:

— Коля...

— Мяне клічуць Барысам.

— Ах, прабач, Барыс... Прашу цябе, не выдавай. Ведаеш, я крыху прыхлусіў. Дзяўчатам, разумееш, надта ж падабаюцца пісьменнікі. Яны гатовы аддаць усё...

— Ну, хай сабе. Толькі мяне не ўзводзь у ранг пісьменніка.

— Кінь, Коля...

— Барыс.

— Прабач, Барыс. Сёе-тое ты ж надрапаў. Навошта гэта сціпласць?

Я глянуў на застаўлены стол.

— Гэта яна цябе так частуе як пісьменніка?

— Чаму, у мяне ёсць свае грошы.

— Адкуль?

Ён усміхнуўся:

— Эх, ты, а яшчэ пачынаючы... Я, разумееш, загнаў білеты на футбол. Ганарарчык, павінен табе сказаць, большы, чым у райгазеце. Толькі маўчы. Па 15 рублікаў за білет. З рук вырвалі. І ўжо калі табе шчыра сказаць, мне яшчэ сёй-той з пачынаючых уступіў білет. Словам, выручылі. Так што мы можам пасядзець.

— Навошта ты гэта зрабіў? — абурыўся я. — Ты ж ведаеш, з якімі цяжкасцямі для ўдзельнікаў нашага семінара дасталі білеты. Гэта агідна.

Мой прыяцель-пачынаючы адразу ж працверазіўся:

— Пачакай, пачакай, не лезь у бутэльку, — пачаў апраўдвацца ён. — Справа ж у тым, што я хачу напісаць апавяданне «Балельшчык», у двукоссі. Разумееш, мне самому хацелася адчуць гэту, як ты кажаш, агіднасць. Вось як такі спекулянт губляе сумленне і нажывае грошы, каб пагуляць... Жыццё, жыццё, разумееш, трэба ведаць... І апавяданне будзе — во!

— Ну, ведаеш, — сказаў я, устаючы з-за стала. — Не з гэтага ты пачынаеш.

— Ну і валяй, — раззлаваўся мой прыяцель-пачынаючы. — А я яшчэ адрэкамендаваў цябе Лілі як пісьменніка...

Марцін КОЎЗКІ

## ФРАЗЫ

● *Бывае, указальны палец выглядае з дулі.*

● *Бачыў трывожны сон: пакуль я пляваў у столь, нехта мяне пераплюнуў.*

● *Пустое месца — гэта свабоднае крэсла... ці нехта ў ім.*

● *Каб выкапаць яму другому, трэба мець глебу пад нагамі.*

● *Поле зроку: краем вока кончык носа.*

● *Толькі тады бачыш сябе чужымі вачыма, калі не бачыш сябе ў чужых вачах.*

М. РУДКОЎСКІ

## ПАРНАСКІЯ ПЛЁТКІ

● Калі выйшла яго першая кніжка, паэт пакінуў пісаць: не было часу. Ён выступаў на літаратурных вечарах, даваў аўтографы і думаў пра бяссмерце.

● Аднойчы, будучы ў гуморы, пісьменнік прызнаўся, што ў вадзе сваіх твораў ён мог бы ўтапіць усіх сваіх крытыкаў.

● Пачынаючы аўтар меў намер кончыць жыццё самагубствам. Ён быў перакананы, што слава да вялікіх пісьменнікаў прыходзіць толькі пасля іх смерці.

Анатоль КУДРАВЕЦ

## ВЫБРАНАЕ

ТОМ ПЕРШЫ

### ЛЮБЛЮ ДАЎГАРУКУЮ

І гэтую даўгарукую Кацю я люблю больш, чым добрую Зіну. Можа таму, што Зіна ў нас заўсёды была вельмі правільная. Яна рабіла толькі тое, што трэба было, і ўсе ведалі, што з ёй нічога благога не можа здарыцца.

Гэта ж Каця, а не Зіна, шамнула залетась у праломку.

...А на неаб'езджаную жаробку хто сеў? Яна.

**(«У нас вяселле», стар. 17—18).**

### ДОБРАЯ ЛЫСІНА

У Алёшы шырокія цёплыя далоні, а на галаве свіціцца лысіна. Мне чамусьці адразу падумалася, што чалавек, у якога хутка будзе добрая лысіна, не можа быць дрэнны. І гэта праўда. У кожным пісьме Зіна піша, што жывуць яны добра, мірна.

**(«У нас вяселле», стар. 18).**

### ГОЛЫ — НА ВЯСЕЛЛІ

У садзе адразу становіцца няўтульна і страшна. Я адчуваю, як па спіне ў мяне прабягаюць калючыя дрыжыкі.

— Коля, дзе ты? Коля!.. — даносіцца з ганка мамін голас. Яна бачыла, што я голы выскачыў на двор, і цяпер непакоіцца. Я чакаю, пакуль бразне клямка ў сенцах, потым ступаю на двор Трэба ісці: у нас жа вяселле.

**(«У нас вяселле», стар. 27—28).**

### УСЁ ПАЙШЛО

— Цётка Марута, пагляньце, я не дробна крышу?

Марута бярэ рукі на прыпол, заглядвае ў таз.

— А добра, Зіначка, як пакрышыш, так і добра. Гэта ж каўбух, не каўбасы... Усё пойдзе — і дробна, і буйна...

**(«Марута і Зіна», стар. 32).**

Падрыхтаваў да выдання паводле зборніка апавяданняў «На зялёнай дарозе»

Рыгор БОХАН

## У СВЕЦЕ МУЗ

**Мал. Ю. ГРЫГОР'ЕВА.**



«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.
Друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856.

АТ 21113

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25 адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62 аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22-19 бухгалтэрыі — 32-15-87.